ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 50 (2576)
ПЯТНІЦА
10
снежня 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:





**У** гэтым нумары штотыднёвіка мы адзначаем 100-годдзе Таварыства передзвіжных мастацкіх выставак і 150-годдзе з дня нараджэння М. А. Някрасава.

Быццам і выпадковы збег дат, але ён яшчэ раз нагадвае пра арганічную сувязь грамадзянскіх пошукаў передавога ідэалу рускай літаратурай у асобе такіх, напрыклад, волатаў, як Талстой, Дастаеўскі, Някрасаў, і рускім выяўленчым мастацтвам у другой палавіне мінулага стагоддзя.

Пагладзіце на даўно знаёмы вам фрагмент карціны Уладзіміра Макоўскага «Прыезд настаўніцы», якая, дарэчы, знаходзіцца сярод скарбаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Хіба гэта не адна з гераінь Някрасава!.. Хіба гэта не сімвал ідэі, так дакладна выказанай паэтам: «сеяць разумнае, добрае, вечнае...» Пагадзіцеся, гэтыя словы стасуюцца і да Някрасава, і да передзвіжнікаў.

Матэрыялы да 100-годдзя Таварыства передзвіжных мастацкіх выставак чытайце на стар. 12, да 150-годдзя з дня нараджэння Някрасава — на стар. 4—5.

# МАСТАК — ІМЯ ВЫСОКАЕ, ГАНАРОВАЕ

## З V З'ЕЗДА БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРАЛЬНАГА АБ'ЯДНАННЯ

У МІНУЛЫМ НУМАРЫ мы паведамлялі нашым чытачам, што ў Мінску адбыўся V з'езд Беларускага тэатральнага аб'яднання. Ніжэй друкуем матэрыялы з'езда.

Са справаздачным дакладам выступіла старшыня прэзідыума праўлення БТА, народная артыстка СССР Л. Александроўская.

— Работнікі тэатральнага мастацтва, — сказала яна, — не аддзяляюць сваё жыццё ад жыцця, задач і інтарэсаў народа, аддаючы яму свае веды, талент, вопыт, натхненне... Сённяшні дзень нашай краіны — гэта прыступка ў заўтрашні дзень, у будучае камуністычнае грамадства. У імя гэтага заўтра пішуць драматургі, ставяць спектаклі рэжысёры, ствараюць вобразы акцёры.

Нам, работнікам мастацтва, павінен быць уласцівы дух наватарства і смелага пошуку, заснаванага на вялікіх традыцыях рускага і шматнацыянальнага савецкага тэатра. Тэатр, як і іншыя віды мастацтва, мае вялікую ўладу над душамі і розумам людзей, таму і нясе вялікую адказнасць за тое, што сцвярджае альбо адмаўляе са сцэны.

Ларыса Пампееўна спынілася на дзейнасці тэатраў рэспублікі за перыяд паміж IV і V з'ездамі БТА. Яна адзначыла плённыя пошукі аднаго з вядучых калектываў — Дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Янкі Купалы. Прэм'еры купалаўцаў выклікаюць шырокую цікавасць, абуджаюць думкі, нараджаюць спрэчкі, дыскусіі. Пасля перыяду некаторага застою ў тэатры пачаўся новы творчы ўздым. Спектакль «Людзі на балоце» ў пастаноўцы Б. Эрына прыцягнуў увагу гледачоў. Захоўваючы традыцыі тэатра, рэжысёр здолеў паглядзець на падзеі твора І. Мележа сённяшнімі вачыма. Гэтую добрую традыцыю пошукаў сваіх аўтараў, арыгінальнага рэпертуару працягвае і зараз тэатр пад кіраўніцтвам галоўнага рэжысёра Ц. Кандрашова. У гэтым сезоне адбыліся прэм'еры па п'есах А. Макаёнка «Трыбунал» у пастаноўцы В. Раеўскага і «Зацюканы апостал» у пастаноўцы Б. Луцэнкі. Цікавае прачытанне п'ес прынесла заслужаны поспех праслаўленаму калектыву. Дае свой творчы плён і той давер, які аказвае рэжысура маладым артыстам. Досыць прыгадаць Аўсяннікава, Мілаванава, Мазлоўскага і іншых артыстаў, работы якіх пераконваюць, што на змену ветэранам прыйшло дастойнае папаўненне. Вельмі хацелася б, каб у афішы купалаўцаў з'явілася п'еса з паўнакроўным станоўчым вобразам сучасніка, натхнёнага і паэтычнага ў сваёй стваральнай працы.

Гаворачы пра другі беларускі тэатр — імя Якуба Коласа, Ларыса Пампееўна адзначыла спектаклі «Улада цемры» і «Клоп» рэжысёра Б. Эрына як выдатныя дасягненні калектыву. Але побач з гэтымі спектаклямі ў рэпертуары ёсць і так званыя сярэднія. Пра поспехі і пралікі коласаўцаў ішла грунтоўная гаворка на выязным пасяджэнні прэзідыума БТА.

У дакладзе адзначана плённае кіраўніцтва тэатрам з боку галоўнага рэжысёра С. Казіміроўскага.

У апошні час у сувязі з прыходам галоўнага рэжысёра Ф. Шэйна ажывілася творчае жыццё ў Рускім драматычным тэатры імя М. Горкага. З'явіліся спектаклі значныя, цікавыя: «Марыя Сцюарт», «Разгром», «Дзеці Ванюшына», «А зоры тут ціхія...» На такім высокім прафесійным узроўні, на жаль, зроблены далёка не ўсе спектаклі горкаўцаў. Тэатру трэба яшчэ шмат папрацаваць над павышэннем прафесійнага майстэрства.

З абласных тэатраў вылучаецца Гомельскі, які ўзначальвае ўдумлівы, вельмі творчы рэжысёр І. Папоў. Ён не толькі пастаноўшчык спектакляў (дарэчы, некаторыя рэжысёры гэтым і абмяжоўваюцца), але і чулы педагог, выхавацель акцёраў.

Зусім нядаўна кіраўніцтва Магілёўскім абласным тэатрам было даручана маладому рэжысёру Ул. Караткевічу. Відавочны прыкметныя зрухі ў рабоце калектыву ў лепшы бок. Асабліва парадавала пастаноўка купалаўскай «Паўлінкі». Пастаянную дапамогу тэатру аказвае БТА.

Ёсць асобныя добрыя спектаклі і ў Гродзенскім абласным тэатры, адзначае прамоўца. Але ўвогуле становішча ў тэатры выклікае сур'ёзную трывогу, аб чым гаварылася ў друку і на выязным пасяджэнні прэзідыума БТА, які праводзіўся сумесна з Міністэрствам культуры БССР. Выклікае яно незадавальненне і ў самім калектыве. Тэатр, як вядома, выконвае свой фінансавы план, але ў рабоце творчага калектыву гэта не можа быць адзіным паказчыкам. Недастаткова высокая культура спектакляў, павярхоўнае прачытанне ідэйнага зместу твораў перашкаджаюць артыстам павышаць сваё майстэрства.

Даўно не радуе нас цікавымі сур'ёзнымі работамі і Рэспубліканскі тэатр юнага гледача. Яго спектаклі, пастаўленыя суха, рацыяналістычна, не могуць захапіць і ўсхваляваць маладую аўдыторыю.

Далей Ларыса Пампееўна адзначыла паспяховую работу Брэсцкага абласнога тэатра, Дзяржаўнага тэатра лялек.

Адметнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі было адкрыццё двух новых тэатраў — Магілёўскага абласнога драмы і камедыі ў Бабруйску і Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР. Гэтыя калектывы зараз у працэсе станаўлення, перажываюць пэўныя цяжкасці. Але ўжо сёння можна гаварыць аб некаторых поспехах, а энтузіязм і настойлівасць маладых творчых калектываў даюць усе падставы думаць, што яны зоймуць дастойнае месца ў беларускім тэатральным мастацтве.

Тэатр оперы і балета — адзін з буйнейшых у рэспубліцы. У яго складзе 600 чалавек. Сур'ёзным экзаменам, выпрабаваннем на сталасць былі для калектыву гастролі ў Маскве. Прыемна адзначыць, што агромністая зала Вялікага тэатра Саюза ССР кожны вечар была перапоўнена. Пасля гастроляў адбылося абмеркаванне, у якім прынялі ўдзел спецыялісты — харэографы, дырыжоры, рэжысёры, педагогі, музыказнаўцы. Размова ішла па вялікім рахунку. Адзначалася плённая работа тэатра з нацыянальнымі кампазітарамі і драматургамі. Адначасова былі зроблены сур'ёзныя заўвагі ў адрас музычнай і сцэнічнай драматургіі. Пастаноўка опернага спектакля — вельмі складаная справа, бо тут сутыкаюцца густы многіх людзей. Таму надзвычай важна, каб дырыжор, рэжысёр і мастак былі аднадумцамі. Так, як гэта было пры пастаноўцы спектакля «Залаты пеўнік».

У апошнія гады з'явілася нямала значных, цікавых работ у нашай балетнай трупе. Побач з класічнымі, пастаўленымі ў новых сцэнічных рэдакцыях, афішу тэатра ўпрыгожваюць арыгінальныя творы: «Альпійская балада» і «Выбранніца» Я. Глебава, «Пасля балю» Г. Вагнера. Маскоўскія крытыкі, адзначыўшы неаспрэчныя поспехі беларускага балета, зрабілі і шэраг сур'ёзных заўваг пастаноўшчыкам і кампазітарам, якія не заўсёды ўмеюць пабудаваць цэласную харэаграфічную і музычную драматургію. Мова балета «Выбранніца» носіць часам адкрыта фармальны характар, у ёй няма арганічнага зліцця з нацыянальным танцавальным фальклорам. Некаторая дывертысментнасць і традыцыйнасць прыёмаў уласціва спектаклю «Пасля балю». Гэтыя і іншыя заўвагі былі выказаны раней і ў рэспубліканскім друку, што яшчэ раз гаворыць аб прафесійнасці і аб'ектыўнасці нашай крытыкі на гэтым участку.

Са свайго боку, сказала Л. Александроўская, хочацца зрабіць заўвагу ў адрас кіраўнікоў тэатра за тое, што з яго рэпертуару выпалі такія класічныя нацыянальныя балеты, як «Салавей» і «Князь-возера».

Прэм'еры апошніх год паказалі, што на сцэне опернага тэатра побач з яе майстрамі вырасла таленавітая моладзь, што дырыжоры, рэжысёры, балетмайстры здольны вырашаць самыя складаныя сучасныя задачы, што ім пад сілу справіцца з тымі недахопамі, якія ёсць у рабоце тэатра, — і справіцца паспяхова.

Некалькі слоў пра стан сучаснай беларускай драматургіі. Сам за сябе гаворыць той факт, што ў тэатрах рэспублікі штогод з'яўляецца нямала арыгінальных спектакляў па творах беларускіх пісьменнікаў. За межы рэспублікі выйшлі п'есы А. Макаёнка, М. Матукоўскага і іншых. Аднак нашымі драматургамі яшчэ не адлюстраваны многія важнейшыя пытанні часу, не атрымаў яскравага мастацкага ўвасаблення вобраз маладога рабочага, інжынерна-тэхнічнага работніка, які змагаецца за перамогу камунізма ў нашай краіне. Мала ў нас п'ес пра моладзь. Аб гэтых і іншых недахопах гаварылася на XXVII з'ездзе Кампартыі Беларусі.

Спыніўшыся на стане тэатральнай крытыкі, дакладчык гаварыла аб неабходнасці крытыкі прынцыповай і смелай, аргументаванай і прафесійнай. Гэтымі якасцямі павінен валодаць кожны, хто бярэцца выступаць на старонках друку.

Уся ўвага праўлення БТА была накіравана на павышэнне прафесійнага ўзроўню творчых калектываў, на вывучэнне і абагульненне іх вопыту. Асноўнымі формамі яго работы былі творчыя канферэнцыі, семінары, абмеркаванні найбольш значных спектакляў, акцёрскіх і рэжысёрскіх работ, арганізацыя лекцый і сустрэч з вядучымі майстрамі мастацтва. Бясспрэчную карысць прыносяць выязныя пасяджэнні прэзідыума БТА, якія праводзіліся ва ўсіх абласных тэатрах разам з прадстаўнікамі Міністэрства культуры БССР, рэжысёрамі, вядучымі крытыкамі.

За перыяд паміж IV і V з'ездамі па ініцыятыве БТА выйшла другая кніга з серыі «Майстры беларускай сцэны». Рыхтуецца да друку трэцяя. Здадзены ў выдавецтва альбом «Беларускі савецкі тэатр». Выдаецца бюлетэнь «Тэатральны Мінск». Ужо неаднаразова ўздымалася пытанне пра выданне ў Беларусі часопіса па праблемах мастацтва. Час наспеў, і хочацца спадзявацца, што такое выданне будзе.

Цэнтрам прапаганды тэатральнага мастацтва павінен стаць тэатральны музей, які можна было б размясціць у будынку цяперашняга Дома мастацтваў, а для Дома мастацтваў пажадана мець больш прасторны і зручны будынак.

Ларыса Пампееўна гаварыла таксама пра надзённыя патрэбы побыту работнікаў мастацтва, у прыватнасці, пра паляпшэнне ўмоў работы Дома адпачынку ў Астрашыцкім Гарадку, пра стварэнне дзіцячага сада, распарадак дня якога адпавядаў бы спецыфічным умовам працы бацькоў, і інш.

Перад беларускім тэатральным мастацтвам стаяць новыя адказныя задачы, сказала ў заключэнне Л. Александроўская. У сувязі з 50-годдзем з дня ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік намечана правесці шмат мерапрыемстваў, якія ўславяць непарушную дружбу народаў СССР, ленінскую нацыянальную палітыку, тыя дасягненні, якія мае наша краіна за 50 слаўных непераможных гадоў. Работнікі літаратуры і мастацтва абавязаны асэнсаваць тое месца, якое яны займаюць у страі «великой армии труда», тую адказнасць, якую яны нясуць перад савецкім чытачом і гледачом. Беларускае тэатральнае аб'яднанне сумесна з усімі работнікамі тэатраў поўнае рашучасці памножыць свой уклад у пабудову камунізма ў нашай краіне, зрабіць усё, каб выйсці на новыя рубяжы, выконваючы гістарычныя рашэнні XXIV з'езда КПСС.

Першай у спрэчках выступіла народная артыстка БССР, артыстка тэатра імя Янкі Купалы З. Браварская.

— Мы працуем на надзвычай важным участку — ідэалагічным фронце, — сказала яна. — Партыя ставіць перад краінай высокія дзёрзкія мэты, а іх нельга дасягнуць без усебаковага развіцця чалавека, без павышэння ўзроўню яго культуры, асветы, грамадскай свядомасці. У гэтым першаступенная роля належыць нам, работнікам мастацтва і культуры.

З. Браварская засяродзіла ўвагу на праблеме, якая заўсёды хвалюе тэатральную грамадскасць, — праблеме творчага пошуку. У мастацтве няма універсальных прыёмаў, гаворыць яна. І ніхто не можа прадказаць, поспехам ці няўдачай закончыцца эксперымент. Але шукаць трэба, шукаць неабходна. Да гэтага абавязвае акцёра адданасць сваёй прафесіі, пачуццё адказнасці перад гледачом.

Заслужаны артыст БССР, артыст Рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага Ю. Сідараў спыніўся на неабходнасці творчых кантактаў паміж акцёрамі розных тэатраў. Ён лічыць, што БТА пакуль што недастаткова займаецца гэтым пытаннем. Звычайна на творчых вечарах, якія праводзяцца ў Доме мастацтваў, прысутнічае нетэатральная публіка (хоць гэта таксама важна), але хацелася б, каб акцёры мелі магчымасць выступаць і перад сваімі калегамі. Гэта, безумоўна, накладала б асаблівую адказнасць і спрыяла б адточванню майстэрства. Як правіла, артысты аднаго тэатра не прысутнічаюць на здачы спектакля ў другім. Добра было б, каб БТА дамаўлялася з кіраўніцтвам тэатраў аб адмене рэпетыцый у гэты час. Сталічныя акцёры толькі чуюць аб існаванні абласных тэатраў, але ніколі не бачаць іх спектакляў. Не запрашае перыферыйных акцёраў на творчыя сустрэчы і Дом мастацтваў.

У дакладзе гаварылася, што пры БТА працуе секцыя крытыкаў, працягвае Ю. Сідараў. Але многія ўпершыню пра гэта пачулі. Відаць, трэба больш шырока апавяшчаць акцёраў аб пасяджэннях гэтай секцыі і аб тых пытаннях, якія на іх ставяцца. Нядаўна на пасяджэнні калегіі міністэрства адбылося абмеркаванне спектакля нашага тэатра «Дзеці Ванюшына», працягвае Ю. Сідараў. Надзвычай цікавыя думкі выказвалі вядучыя акцёры розных тэатраў. Такое абмеркаванне, я ўпэўнены, аказалася б цікавым і для шматлікіх чытачоў газеты «Літаратура і мастацтва», але яе супрацоўнікі, на жаль, не былі запрошаны.

У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ З'ЕЗДА...


Сустрэліся дырэктар Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола Беларусі Л. Валчэцкі і дырэктар Беларускага акадэмічнага тэатра оперы і балета М. Шаўчук.


Драматург А. Макаёнак, рэжысёры В. Раеўскі і Б. Эрын, тэатразнаўца Г. Колас.

Хацелася б зрабіць папрок і ў адрас самой газеты. Рэцэнзіі на спектаклі з'яўляюцца на яе старонках вельмі позна, калі спектакль прагледзела шмат людзей і пэўная грамадская думка ўжо склалася.

Народны артыст СССР, артыст тэатра імя Купалы Л. Рахленка прысвяціў сваё выступленне значнасці і адказнасці акцёрскай працы. Зараз у тэатры ўсё большае значэнне набывае рэжысёр, сказаў Л. Рахленка. Але гэта зусім не азначае, што артыст толькі слепа выконвае яго волю. Артыст павінен быць творцам, мастаком, грамадзянінам. Калі б усе ўсведамлялі гэта, было б значна больш акцёрскіх адкрыццяў, цікавых работ, чым мы маем цяпер. Сённяшні чалавек—гэта надзвычайна. Ён адкрывае новыя зоркі і планеты, вывучае космас і мікрасвет. Акцёр жа адкрывае чалавека.

— Выхаванне новага чалавека, калі не цалкам, дык у значнай меры ляжыць на нас — людзях, якія працуюць у літаратуры і мастацтве,— сказаў драматург А. Макаёнак. — Цяжка пералічыць усе тыя якасці, якія мы павінны развіваць у людзях. Гэта пачуцці інтэрнацыяналізму і класавай свядомасці, сяброўства і калектывізму, пяшчотнасць, спачуванне, дабрата, сумленнасць. Але думаецца, што выхоўваць чалавека пры дапамозе натацый — будзь добрым і не будзь дрэнным—шлях не самы эфектыўны. Іншы раз гнеўнае слова сатыры можа зрабіць больш, чым усе ўшчуванні. Таму сатыра павінна займаць сваё пачэснае месца побач з іншымі жанрамі тэатральнага мастацтва.

Нельга сказаць, што пісьменнікі наогул не звязаны з БТА, працягвае прамоўца. Іншы раз яны пішуць п'есы, і іншы раз іх ставяць. Але сувязі гэтыя павінны быць больш трывалымі, паўсядзённымі. Напрыклад, членаў секцыі драматургаў можна было б запрашаць на абмеркаванні спектакляў і работ асобных акцёраў, што праводзяцца ў БТА. Хацелася б таксама, каб БТА праяўляла большую зацікаўленасць і ў лёсе здольных акцёраў, клапацілася аб своечасовым прысуджэнні ім ганаровых званняў. Здаецца вельмі карысным і запрашэнне ў нашы тэатры таленавітых рэжысёраў розных рэспублік.

Аб стане тэатразнаўства і крытыкі гаварыў доктар мастацтвазнаўства У. Няфёд. Ён расказаў пра працы, напісаныя беларускімі даследчыкамі. На яго думку, справы ў гэтай галіне ідуць добра, хоць нестае яшчэ буйных работ праблемнага, тэарэтычнага характару. Аднак мы маем патрэбу ў дапамозе пры выданні нашых кніг, гаворыць У. Няфёд. У нас напісаны шэраг даследаванняў, якія даўно маглі б быць выдадзены, але ляжаць без руху.

Значна горшае становішча, лічыць прамоўца, у галіне крытыкі:

— На старонках газет часцей за ўсё выступаюць людзі, якія не маюць прафесійных ведаў, не ўваходзяць у секцыю БТА. Незразумела, хто за іх адказвае. У апошні час сталі з'яўляцца імёны, пра якія я, як старшыня секцыі, не маю ніякага ўяўлення. Хочацца звярнуцца ў рэдакцыі газет з просьбай прыцягваць прафесійных крытыкаў і тэатразнаўцаў... Існуе памылковая думка, што напісаць рэцэнзію ў газеце—справа простая. Павінен сказаць, што газетная тэатральная рэцэнзія —самы цяжкі жанр, бо на малой плошчы трэба сказаць многае. Таму газетныя рэцэнзіі мала каму ўдаюцца... Ёсць несумненная патрэба ў часопісе, які б асвятляў праблемы мастацтва. А пакуль што крытыкам павінны прадастаўляцца старонкі літаратурных часопісаў, бо, каб добра пісаць, трэба мець умовы для росту.

— Наш тэатр, хоць і размешчаны ў абласным цэнтры, з'яўляецца рэспубліканскім, — гаворыць галоўны рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа С. Казіміроўскі. — Гэта да многага абавязвае.

Расказаўшы пра тыя цяжкасці, з якімі сутыкаецца ў рабоце тэатр, і пра тыя поспехі, якія дасягнуты ў перыяд паміж з'ездамі, пра імкненне калектыву захоўваць вернасць сваім слаўным традыцыям, С. Казіміроўскі спыніўся на мерапрыемствах, што праводзіць тэатр па выхаванні гарадскога і сельскага гледача. У прыватнасці, пры тэатры створаны універсітэт тэатральнага мастацтва. На восем найбольш значных спектакляў распаўсюджаны абанементы. Для іх удзельнікаў перад спектаклямі чытаюцца лекцыі па мастацтве. Ва ўмовах Віцебска не так лёгка знайсці патрэбных спецыялістаў. С. Казіміроўскі звярнуўся да праўлення БТА з просьбай дапамагчы ім з кадрамі лектараў.

Народная артыстка рэспублікі, артыстка тэатра оперы і балета І. Савельева падзякавала БТА за тую ўвагу, якую праяўляе яно да кожнага юбілею, да кожнай знамянальнай даты, што датычыць опернага тэатра. Яна выказала пажаданне, каб БТА таксама актыўна аказвала дапамогу ў паўсядзённым жыцці тэатра, у прыватнасці, у арганізацыі заняткаў па рытміцы і фехтаванні, у наладжванні лекцый і дыскусій, у больш мэтазгодным размеркаванні творчых камандзіровак і г. д.

— Глядач з'яўляецца адным з неад'емных кампанентаў тэатра, — сказаў у сваім выступленні галоўны рэжысёр Магілёўскага абласнога тэатра Ул. Караткевіч. — Рэпертуар немагчыма складаць, абстрагуючыся ад яго патрэб і густаў. Што такое магілёўскі глядач? Гэта ў асноўным моладзь, якая прыйшла на новабудоўлі, і выхаванне гэтай моладзі — наша першачарговая задача.

Мы ніяк не можам паскардзіцца на няўвагу да нашага тэатра з боку БТА. Па першай нашай просьбе да нас прыязджаюць крытыкі, кансультанты. Мы ўдзячныя ўдзельнікам выязнога пасяджэння прэзідыума БТА, якія зрабілі нам шэраг слушных заўваг, вельмі патрэбных для далейшай працы.

Ул. Караткевіч выказаў пажаданне, каб тэатры больш аператыўна інфармаваліся аб з'яўленні новых беларускіх п'ес, бо часам рэжысёры даведваюцца пра іх толькі з маскоўскіх інфармацыйных бюлетэняў.

Кандыдат мастацтвазнаўства Ю. Чурко глыбока прааналізавала стан сучаснага беларускага балета. Яна з заклапочанасцю гаварыла пра неабходнасць захоўваць нацыянальную харэаграфічную мову як у фальклорных, так і ў сучасных спектаклях.

— Што ж датычыць прэтэнзій да крытыкі, пра якія тут многа гаварылася, — зазначыла Ю. Чурко,—то я хачу выказаць, са свайго боку, і нашы прэтэнзіі. Хіба сакрэт, што многія артысты цікавяцца не сур'ёзнымі аргументаванымі артыкуламі, а толькі тым, пахвалілі іх ці не? Ёсць у нас прэтэнзіі і да асобных аўтараў спектакляў, якія лічаць, што лепш змагацца з крытыкам, чым з недахопамі. Так было, напрыклад, пасля з'яўлення рэцэнзіі Т. Шчарбаковай на оперу «Зорка Венера» ў «Літаратуры і мастацтве». Аднак маскоўскія гастролі пацвердзілі, што крытык меў рацыю.

Пра ролю крытыкі гаварыў таксама народны артыст БССР, артыст тэатра імя Горкага Р. Янкоўскі. Рэцэнзент — сябра, дарадчык, выхавацель, які не канстатуе холадна і бяздушна недахопы, а хварэе за іх разам з калектывам, думае, як гэтыя недахопы выправіць у будучым, — пра такога рэцэнзента мараць акцёры. Шкада, што такія чулыя да тэатра людзі, як, напрыклад, Г. Колас, пакідаюць крытыку. Нам трэба сябраваць, бо ўсе мы служым адной справе.

Галоўны рэжысёр Брэсцкага тэатра імя Ленінскага камсамола Г. Волкаў падзяліўся сваімі думкамі пра неабходнасць знаходзіць новыя формы вывучэння і выхавання гледача.

Кожны спектакль—эксперымент, сцвярджае галоўны рэжысёр тэатра оперы і балета А. Дадзішкіліяні. Без эксперыменту наогул не можа быць тэатра—ні вялікага, ні маленькага. Сапраўдны мастак заўсёды ў пошуку. Новае кіраўніцтва тэатра ставіць перад сабой задачу ажыццявіць пастаноўку класічных твораў, якія даўно ці наогул ніколі не гучалі са сцэны нашага опернага. Безумоўна, будзе працягвацца работа з беларускімі аўтарамі. Завяраючы іх, што з боку тэатра ім будзе аказана самая сур'ёзная дапамога, хочацца заклікаць іх да большай адказнасці перад тэатрам.

А. Дадзішкіліяні выказаў сваё незадавальненне станам крытыкі ў галіне балета. На яго думку, тут працуе вельмі абмежаванае кола людзей, і таму яна носіць больш замкнёны характар, чым крытыка ў галіне драматычнага і опернага мастацтваў.

— У апошні час вусна і ў прэсе даводзіцца чуць папрокі ў адрас нашага тэатра,—сказаў дырэктар Тэатра юнага гледача А. Вольскі.—На жаль, падставы для гэтага ёсць, хаця нельга думаць, што мы не ўстрывожаны такім становішчам і нічога не робім, каб яго змяніць. Ніхто не можа нас папракнуць у адсутнасці цікавага, патрэбнага рэпертуару. Уся наша бяда ў тым, што ў тэатры няма сур'ёзнай рэжысуры. Малады здольны рэжысёр Л. Тарасава таксама мае патрэбу ў дапамозе больш сталых майстроў. Мы прынялі цвёрдае рашэнне не выпускаць слабых спектакляў, якія не задавальняюць мастацкі савет тэатра. Менавіта таму так доўга не выходзіць «Італьянская трагедыя». Патрабаванні да нас прад'яўляюцца вялікія, а вось кадры нам дастаюцца з тых, што не ўзялі ў іншыя тэатры. Ніхто, па сутнасці, не займаецца падрыхтоўкай акцёраў для Тэатра юнага гледача. Пісьменнікі нясуць да нас першыя драматургічныя спробы альбо проста недасканалыя творы (і мы, дарэчы, лічым сваім абавязкам «выцягваць» іх), а ўсё лепшае забіраюць «дарослыя» тэатры.

— Пра нас часта піша «Літаратура і мастацтва»,—гаворыць А. Вольскі.—Мы ўдзячныя газеце, якая заўсёды ўказвае на нашы недахопы. Шкада толькі, што па-за яе полем зроку застаюцца тыя добрыя парасткі, што ў нас ёсць.

З прапановай стварыць у рэспубліцы творчую лабараторыю па прыкладзе Масквы, Ленінграда і Украіны выступіла рэжысёр Тэатра музычнай камедыі БССР В. Вярбоўская. Акрамя тэарэтычных пытанняў, якія маглі б ставіцца на яе пасяджэннях, такая лабараторыя магла б прынесці карысць і чыста практычную. Не ладзяцца, напрыклад, справы ў маладога рэжысёра — удзельнікі лабараторыі глядзяць яго спектаклі, раяцца, радзяць, прапануюць, дапамагаюць.

— За няпоўныя дзесяць месяцаў існавання мы паставілі шэсць спектакляў,—гаворыць прамоўца.—Гэта вельмі многа для музычнага тэатра. І зусім натуральна, што мы хацелі б часцей чуць цікавае слова крытыкі. Вельмі крыўдна, калі з'яўляюцца рэцэнзіі павярхоўныя, прымітыўныя, школьярскія, накшталт той, з якой выступіў «Вячэрні Мінск» пасля нашай прэм'еры «Халопка».

Галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек БССР А. Ляляўскі адзначыў, што ў апошні час лялечныя тэатры атрымалі ўсеагульнае прызнанне і занялі сваё пачэснае месца ў тэатральным мастацтве. Адбываюцца творчыя сустрэчы з калегамі з іншых рэспублік, семінары, выстаўкі, фестывалі. А. Ляляўскі падзякаваў Беларускаму тэатральнаму аб'яднанню за дзейсную дапамогу ў паўсядзённай рабоце калектыву.

У дакладзе Л. Александроўскай было зашмат увагі ўдзелена сталічным тэатрам і недастаткова поўна ахарактарызавана дзейнасць перыферыйных, лічыць галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога тэатра А. Струнін. У прыватнасці, А. Струнін не згадзіўся з той часткай даклада, якая датычыла Гродзенскага тэатра. Ён сцвярджае, што справы ў тэатры ідуць добра: ёсць цікавыя акцёрскія работы, многа моладзі, выконваецца і перавыконваецца фінансавы план. На думку прамоўцы, уся справа ў тым, што дасягненняў гродзенцаў проста не заўважаюць некаторыя крытыкі, у прыватнасці, у «ЛІМе».

Рэжысёр народнага тэатра Маладзечанскага мэблевага аб'яднання Г. Васілеўскі заклікаў драматургаў і рэцэнзентаў часцей звяртаць увагу на самадзейныя народныя калектывы. Іх у дзесяць разоў больш, чым прафесійных, і абслугоўваюць яны не меншую аўдыторыю.

Міністр культуры БССР Ю. Міхневіч засяродзіў увагу на якасці драматургіі—першаступеннай асновы будучага спектакля. Але добрая драматургія сама па сабе яшчэ не вырашае поспеху спектакля. Ён залежыць і ад таленту пастаноўшчыкаў. Кожны творца, безумоўна, мае права на пошук і эксперымент, але гутарка павінна ісці не аб рэвізіі ідэйных, эстэтычных прынцыпаў, а аб сродках іх рэалізацыі.

**У ПЕРАПЫНКАХ ПАМІЖ ПАСЯДЖЭННЯМІ З'ЕЗДА...**



Народны артыст БССР Ф. Шмакаў і народны артыст СССР П. Малчанаў.



Драматург К. Губарэвіч і народны артыст СССР Л. Рахленка.



Салістка Беларускага тэатра оперы і балета Г. Лебедзева і народны артыст БССР Л. Бражнік.



Госці з Магілёва — заслужаны артыст рэспублікі рэжысёр А. Раеўскі і галоўны рэжысёр тэатра Ул. Караткевіч.

Фота Ул. КРУКА.

— Партыя і ўрад робяць усё для таго,—працягвае прамоўца,—каб наш беларускі тэатр з гонарам выканаў сваю місію, свой абавязак перад народам, каб нацыянальнае сацыялістычнае мастацтва Беларусі заняло пачэснае месца ў сузор'і самабытных і адзіных па духу мастацтваў Савецкага Саюза... Клопаты партыі пра плённасць творчых пошукаў, пра раскрыццё здольнасцей і талентаў, пра разнастайнасць форм і стыляў, выпрацаваных на аснове сацыялістычнага рэалізму, ствараюць дабратворныя ўмовы для новага ўздыму мастацкай творчасці, для таго, каб мы давалі народу творы, глыбокія па змесце і яркія па форме.

Галоўнай задачай БТА з'яўляецца аб'яднанне ўсіх калектываў у адну творчую сям'ю, каб крыніцай біла тэатральнае жыццё ў рэспубліцы, сказала рэктар Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута Э. Герасімовіч. У нас ёсць шмат пытанняў, якія мы можам вырашыць толькі разам: стан сённяшняй драматургіі і крытыкі, праблемы сучаснай рэжысуры, наватарства і традыцый і г. д.

— На з'ездзе гучалі папрокі ў адрас газет, якія друкуюць на сваіх старонках артыкулы «выпадковых» людзей, г. зн. тых, чые імёны яшчэ не вядомы шырокай грамадскасці, — сказаў крытык Г. Колас.—Хачу нагадаць паважаным тэатразнаўцам, што і іх імёны былі калісьці невядомымі. Калі ва ўсіх газетах будуць пісаць адны і тыя ж людзі, ці не прывядзе гэта да аднастайнасці? І хто прыйдзе ім на змену? А акцёрам і рэжысёрам я нагадаў бы, што крытыкам таксама не пашкодзіць тая чуласць і добразычлівасць, якой работнікі тэатра патрабуюць да сябе.

□

Пасля заканчэння з'езда адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 25-годдзю БТА. Прысутных віталі міністр культуры БССР Ю. Міхневіч, прадстаўнікі мастацтва братніх рэспублік. З тэатралізаванымі прывітаннямі БТА выступілі артысты тэатраў оперы і балета, Янкі Купалы, Рускага драматычнага імя Горкага, юнага гледача і тэатра лялек.













Кнігі М. Някрасава на беларускай мове.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ.

# ЧАЛАВЕК ВЯЛІКАЙ ЛЮБВІ

ЯГО ІМЯ стала сінонімам паэта-грамадзяніна. Гэта тлумачыцца і характарам яго паэзіі, і тым, што ён, як ніхто іншы, выразна, з уласцівай яму сілай і афарыстычнасцю, вызначыў у сваіх вершах грамадскае прызначэнне паэта. Мы яшчэ са школьнай парты ведаем напамяць някрасаўскія запаведзі, мы часта паўтараем іх. Асабліва, калі размова заходзіць аб грамадзянскасці, аб сацыяльнай скіраванасці паэзіі. На жаль, ад завучанасці і частага механічнага паўтарэння ісціны трацяць часам свой першапачатковы сэнс. Тое самае адбываецца і з паняццем грамадзянскасці. Мы талкуем яго, кожны на свой лад, вельмі ўжо адвольна. Настолькі адвольна, што ўжо вылучаем «грамадзянскую лірыку» ў асобны жанр, аддзяляем яе ад паэзіі асабіста-лірычнай і ледзь не зводзім грамадзянскасць да одапісу, да гучных рыфмаваных адпісак з нагоды святочнай падзеі.

Між тым, адзін з урокаў някрасаўскай музы якраз і заключаецца ў тым, што сіла і веліч паэтычнага твора залежыць ад сілы і велічы яго аўтара як асобы. І яшчэ Луначарскі пярэчыў супраць штучнага адрыву аднаго ад другога ў дачыненні да Някрасава. «Някрасаў **грамадзянскі** паэт, — пісаў ён, — але гэта грамадзянскі **паэт**, у тым-та і ўся сіла. Слабыя паэты з моцным грамадзянскім пачуццём заслугоўваюць павагі, але рэдка прыносяць карысць. Перш за ўсё мастацтва павінна быць мастацтвам, гэта значыць павінна, па слове Льва Талстога, заражаць душэўным перажываннем мастака, запальваць нашу душу духоўным яго полымем... Патрэбна, перш за ўсё, каб у душы мастака гарэла гэта полымя, каб яго перажыванне было вышэйшае за нашы перажыванні, каб гэта быў вялікі чалавек; чалавек невялікі не можа быць вялікім паэтам таму, што заражаць няма чым...»

Перачытваючы вершы М. А. Някрасава — чытаеш старонкі яго жыцця. І пераконваешся ў правільнасці гэтага сілагічнага раду: грамадзянін — паэт — асоба — чалавек, які любіць. Някрасаў быў вялікім чалавекам. Не ў сэнсе выключнасці, ідэальнасці. Мы сфальшывім, калі нават назавем яго «рыцарам без страху і папроку». Бо яму быў вядомы страх. «Запугал меня с детства отец», — прызнаўся ён у адным вершы. Потым яго застрашвалі будачнікі, жандары, суд, цэнзары, царскі рэжым... Ён піша аб гэтым у сваім «Судзе» (сучаснай аповесці)». Яму былі ўласцівыя сумненні («Злобою сердце питаться устало — много в нём правды, да радости мало», «Плохо верится в силу добра» і г. д.). Яго пропаведзі натуральна пераходзілі ў гранічна шчырыя споведзі, у горкія, часам да бязлітаснасці самакрытычныя прызнанні («Народ! Народ! Мне не дано геройства служить тебе, — плохой я гражданин», «Мне борьба мешала быть поэтом, песни мне мешали быть бойцом», «Я настолько же чуждым народу умираю, как жить начинал» і г. д.).

Так, усё гэта так. І ўсё гэта пацвярджае толькі, што ён быў Чалавекам. Жывым. Зямным. Поўным барацьбы, пошуку, гарэння, непакою. Ёсць яркі дакумент, які найлепшым чынам асвятляе ісціну. Чарнышэўскі пісаў 14 жніўня 1877 года з Сібіры А. Н. Пыпіну: «Калі, як ты атрымаеш маё пісьмо, Някрасаў яшчэ будзе працягваць дыхаць, скажы яму, што я горача любіў яго як чалавека, што я дзякую яму за яго добрыя адносіны да мяне, што я цалую яго, што я перакананы: яго слава будзе бессмяротная, што вечная любоў Расіі да яго, самага геніяльнага і высакароднага з усіх рускіх паэтаў. Я рыдаю аб ім. Ён сапраўды быў чалавек вельмі незвычайнай высакароднасці душы і чалавек вялікага розуму...»

Дададзім яшчэ — і чалавек вялікай любві.

Любіць, любоў... Гэта адно з асноўных слоў у слоўніку паэта. Пачуццё, дакладней, цэлая гама пачуццяў, вызначаных гэтым словам, утвараюць глыбіннае цёплае цячэнне, своеасаблівы Гальфстрым у бурным і суровым моры някрасаўскай паэзіі. Глыбіннае і шматслойнае. Тут, у гэтай плыні, любоў да маці. Любоў да жанчыны — абранніцы сэрца і да жанчыны-працаўніцы. Любоў да дзяцей і да сяброў-аднадумцаў. Любоў да людзей, перш за ўсё да працоўных, але абяздоленых, бяспраўных, да «брата-чалавека». Любоў да «зялёнага шуму» жыцця і роднай прыроды. Любоў да радзімы... Любоў паэта набывае ідэйны сэнс, становіцца сімвалам рэвалюцыйнай свядомасці («За убежденья, за любовь иди и гибни безупречно») і сінонімам ідэалу («Уведи меня в стан погибающих за великое дело любви»). Пушкін аддаваў перавагу слову «праўда». Някрасаў спыніўся на «любві». Ён — чалавек другой біяграфіі і другога часу, калі некаторыя метафізічныя катэгорыі ўступаюць месца паняццям больш рэальным, маральна і сацыяльна канкрэтызаваным. Праўду можна толькі знаць ці не знаць. Любоў у самім сэрцы, яна хвалюе, непакоіць, рухае, абавязвае. «Кто живет без печали и гнева, тот не любит отчизны своей».

Прыклад Някрасава дапамагае нам зразумець дыялектыку любві і нянавісці ў грамадзянскай паэзіі, паказвае нам, што паэт не можа быць абыякавым і самазадаволеным, не можа жыць без «смутку і гневу», калі ён здольны любіць. Мера любві — мера грамадзянскасці.

Павучальна і другое. Вучачы і прапаведуючы, паэт ні разу не стаў у позу настаўніка і не ўзняўся на катурны бясхібнага ў сваёй праваце прапаведніка. Ён быў тонкім лірыкам і быў глыбока іранічным і саркастычным у сваёй сатыры. Але галоўнае, што заўсёды прыцягвала яго ўвагу і было пастаянным прадметам яго «жгучего, святого беспокойства», — гэта драма чалавечага жыцця. У адным са сваіх ранніх вершаў ён напісаў:

**Но оба вы — извозчик дуралей**
**И ты, смешно причесанная дама, —**
**Вы пробуждаете не смех в душе моей —**
**Мерещится мне всюду драма.**

Спачатку драма толькі мроілася, і мроілася ў акаляючым жыцці. Потым паэт усё больш усведамляе яе, перажывае яе сам, як асоба і як мастак, перажывае «пытку творческого духа». Паэт спавядаецца, прызнаецца, раскайваецца, пакутуе, спадзяецца, сумняваецца, верыць. Але ад гэтага, як ні дзіўна, толькі ўзрастае маральная сіла яго паэзіі.

Такім чынам — гэта яшчэ адно патрабаванне някрасаўскай традыцыі — слова паэта павінна адпавядаць яго ўнутранаму свету, яго душэўнаму складу. «У грамадстве, — пісаў М. А. Някрасаў у аглядзе часопісаў за 1855 год, — яшчэ бываюць абставіны, дзе вы вымушаны падаваць руку чалавеку двухсэнсоўнаму, назваць той ці другі факт не тым імем, якога ён заслугоўвае, — у літаратуры не існуе такой няўручнасці. Літаратура не павінна нахіляцца на ўзровень з грамадствам у яго цёмных ці сумнiцельных праявах. У што б ні стала, пры якіх бы абставінах ні было, яна павінна ні на крок не адступаць ад сваёй мэты — узвысіць грамадства да свайго ідэалу — ідэалу дабра, святла і ісціны!»

Паэт, юбілей якога мы сёння ўрачыста адзначаем, пацвердзіў праз гады вернасць самому сабе, сваім словам, сваёй любві да дабра і нянавісці да зла.

# ЛІЦЕЙНЫ ПРАСПЕКТ, 36

НА ЛІЦЕЙНЫМ праспекце ў Ленінградзе нямала старажытных будынкаў. На адным з іх—парадкавы нумар 36. У архітэктурных адносінах дом гэты не выклікае вялікай цікавасці, хоць і пабудаваны ў канцы XVIII або ў пачатку XIX стагоддзя. Калісьці ён належаў выдаўцу «Отечественных записок» А. А. Краеўскаму. Тут жылі паэт В. Ф. Адоеўскі, славуты хірург М. І. Пірагоў. А ў жніўні 1857 года ў адной з кватэр на другім паверсе пасяліўся Мікалай Аляксеевіч Някрасаў. У ёй ён пражыў дваццаць гадоў — да самай смерці. Цяпер у гэтай кватэры мемарыяльны музей вялікага рускага паэта.

Вядомасць музея-кватэры М. А. Някрасава велізарная. Штодзень залы запаўняюць сотні людзей, што прыехалі з розных куткоў нашай краіны. Многія з іх — жыхары Беларусі. У гэтым я пераканаўся, перагортваючы старонкі «Кнігі запісаў», што ляжыць на невялікім століку ў былой камердынерскай. Усхваляваныя запісы сведчаць, якой вялікай любоўю карыстаецца творчасць Някрасава ў беларускім народзе, як і ў іншых народаў шматнацыянальнага Савецкага Саюза.

Агляд музея, знаёмства з яго экспанатамі пачынаецца з прыхожай, адкуль праходзіш у вялікі пакой — прыёмную. У ёй размешчана экспазіцыя, якая расказвае аб пачатковым перыядзе літаратурнай дзейнасці Някрасава. Вось на сцяне, пад шклом — першая публікацыя вадэвіля пісьменніка «Шыла ў мяшку не схаваеш, дзяўчыну пад замком не ўтрымаеш» (1841 г.). Успамінаецца нумар газеты «Минские губернские ведомости» за 19 студзеня 1849 года, з якога відаць, што вадэвіль гэты ставіўся і ў мясцовым гарадскім тэатры «ў карысць акцёра Яшчулты». Мінскі глядач цёпла прыняў п'есу Някрасава, якая змяшчала элементы сатыры, была звязана з сучаснасцю і ўяўляла сабой спробу наблізіць тэатр да рэчаіснасці.

Першы збор вершаў паэта меў поспех, якога, паводле сведчання Тургенева, не бывала з часоў Пушкіна. Асабліва зачытвалася вершамі Някрасава перадавая моладзь, бачачы ў іх заклік да барацьбы з сіламі рэакцыі, глыбокае спачуванне прыгонным сялянам, абяздоленым пецярбургскім беднякам. Навучэнцы Мінскай гімназіі, напрыклад, перапісвалі некаторыя вершы паэта ад рукі, завучвалі іх напамяць, за што падвяргаліся пакаранню з боку дырэкцыі.

Пройдзе прыкладна пяцьдзесят гадоў, і Янка Купала перакладзе на беларускую мову адзін з вершаў някрасаўскага зборніка — «Агароднік». Другі верш паэта — «Калыханка» аказаў уплыў на Купалу, калі ён на пачатку свайго творчага шляху пісаў «Над калыскай».

# У ЯРАСЛАЎСКАЙ ГАЗЕЦЕ «ГОЛОС»

ВОСЕННЮ 1908 года семнаццацігадовы Максім Багдановіч разам з сям'ёй пераехаў з Ніжняга Ноўгарада ў Яраслаўль. Ён вучыўся спачатку ў старэйшых класах яраслаўскай гімназіі, а потым у юрыдычным ліцэі. Тут плённа разгарнулася яго творчая дзейнасць.

З 1913 па 1916 гг. М. Багдановіч супрацоўнічае ў яраслаўскай газеце «Голос», выдаўцом якой быў Канстанцін Фёдаравіч Някрасаў — пляменнік вялікага рускага паэта М. А. Някрасава.

У Яраслаўлі, дзе правёў сваё юнацтва беларускі паэт, прайшлі, як вядома, юнацкія гады Някрасава. З 1832 па 1837 гг. Някрасаў вучыўся ў яраслаўскай гімназіі. Адсюль ён паехаў у Пецярбург.

Пражываючы стала ў сталіцы, вялікі рускі паэт не забываў родныя мясціны. У 1862 годзе Някрасаў набыў у вёсцы Карабіха недалёка ад Яраслаўля маёнтак, у якім на працягу трынаццаці гадоў часта адпачываў летам, пісаў свае творы «Рускія жанчыны», «Мароз, Чырвоны нос», «Сялянскія дзеці» і іншыя. Тут гасцілі не раз Салтыкоў-Шчадрын, Астроўскі, Грыгаровіч...

У жніўні 1913 года ў Карабісе памёр малодшы брат вялікага рускага паэта — Ф. А. Някрасаў. Неспадзявана яго сыны адшукалі ў склепе невядомыя раней рукапісы паэта, прыватныя, а таксама службовыя лісты, звязаныя з яго рэдактарскай дзейнасцю. Частка гэтых матэрыялаў увайшла у кнігу «Архіў вёскі Карабіхі», якую выдаў потым пляменнік паэта К. Ф. Някрасаў, з якім Максім Багдановіч сябраваў.

Кніга «Архіў вёскі Карабіхі» была выдадзена ў 1916 годзе ў Маскве. А першая рэцэнзія на гэтую кнігу з'явілася на старонках яраслаўскай газеты «Голос» (№ 24 за 1916 год), і аўтарам яе быў Максім Багдановіч.

М. Багдановіч, не закранаючы ў сваёй рэцэнзіі асноўных праблем творчасці Някрасава, спыняецца галоўным чынам на рэдактарскай дзейнасці паэта, параўнаўча мала асветленай ў тагачаснай крытыцы.

У сваёй рэцэнзіі М. Багдановіч асабліва адзначае лісты М. Я. Салтыкова-Шчадрына і Л. М. Талстога да Някрасава.

У пятнаццаці лістах Салтыкова-Шчадрына да Някрасава, якія змешчаны ў кнізе «Архіў вёскі Карабіхі», шырока адлюстравалася і літаратурная дзейнасць Салтыкова-Шчадрына. Так, напрыклад, у лісце ад 10 ліпеня 1870 года Салтыкоў-Шчадрын паведамляе Някрасаву, што ён закончыў «Гісторыю аднаго горада», а днямі заканчвае «Ліст з правінцыі». У другім лісце, датаваным 17 ліпеня 1871

КАНФЭНЦЫЯ КУЛЬТАСВЕТРАБОТНІКАЎ У ГРОДНЕ

# ІНІЦЫЯТАРЫ

Тры дні ў Гродне працавала рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя сельскіх культасветработнікаў. На парадку дня было пытанне: «Роля сельскіх устаноў культуры ў камуністычным выхаванні працоўных пасля XXIV з'езда КПСС». З дакладам выступіла начальнік Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР Ж. Сінельнікава.

У канферэнцыі прынялі ўдзел больш як дзвесце загадчыкаў сельскіх бібліятэк і сельскіх дамоў культуры з усіх абласцей рэспублікі, метадысты абласных дамоў народнай творчасці, работнікі абласных упраўленняў культуры. Многія з іх падзяліліся вопытам работы. Вось некаторыя з выступленняў.

## ТРЭБА БЫЦЬ ЭНТУЗІЯСТАМ



— Як часта можна пачуць: «Зойдзем на агеньчык клуба...» — кажа дырэктар Томкавіцкага сельскага дома культуры Дзяржынскага раёна **Людміла Макарава.**— Пры гэтым маецца на ўвазе, што атмасфера цеплыні, утульнасці, ветлівасці ў спалучэнні з умела падрыхтаваным клубным мерапрыемствам сагрэюць душы і сэрцы людскія.

Калі мне даводзіцца пачуць: «Прыйшлі на агеньчык вашага дома культуры», я ўспрымаю гэтыя словы як найвялікшую падзяку, як прызнанне таго, што ў нашым сельскім асяродку культуры можна пра нешта новае даведацца, адпачыць.

У доме культуры ёсць куточак, дзе відаць, хто з землякоў аддаў сваё жыццё за наш шчаслівы мірны дзень, хто з франтавікоў і партызан сёння працуе ў калгасе. А сустрэчы з ветэранамі рэвалюцыі, Вялікай Айчыннай вайны і працы заўсёды збіраюць вялікую аўдыторыю.

Шмат увагі аддаем прапагандзе рашэнняў XXIV з'езда партыі. Поспех мае цыкл лекцый «Усё ў імя чалавека, усё для яго шчасця». Штомесяц праводзім тэматычныя вечары. Назаву некаторыя з іх: «Наш калгас ад з'езда да з'езда», «Шляхі-дарогі песні баявой», «Чакайце нас, зоркі», «Твой заўтрашні дзень, выпускнік», «Працай славім Радзіму сваю» і іншыя. Імкнёмся, каб вечары не былі падобныя адзін на адзін, каб не нагадвалі сходы з абавязковым прэзідыумам і даўжэзнымі прамовамі.

Дамагчыся гэтага, вядома, не лёгка. Трэба шукаць. Галоўнае — падрыхтаваць добры сцэнарый тэматычнага вечара. А гэта справа складаная. Будзем шчырымі, не кожны клубны работнік можа сам напісаць яго. Гатовых сцэнарыяў дом культуры атрымлівае мала, ды і не заўсёды яны падыходзяць. Іх даводзіцца, як кажуць, «прывязваць» да мясцовых умоў. Хацелася б, каб Рэспубліканскі метадычны кабінет культасветработы, дамы народнай творчасці і дамы мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў не забывалі пра сяло.

На вопыце пераканалася, што тэатралізаваныя тэматычныя вечары ствараюць у доме культуры радасную атмасферу. У жніўні мы правялі вечар «Чалавек! Гэта гучыць горда». У запрашальных білетах, якія надрукавалі ў мясцовай друкарні, было напісана: «На тэматычным вечары вы пазнаёміцеся з людзьмі, якія сваімі гераічнымі подзвігамі і сваёй працай стваралі і ствараюць нашу цудоўную яву. Пра важнейшыя падзеі 20—30-х гадоў вам раскажа парторг калгаса «Камінтэрн» В. Тупікаў. Пра сваіх землякоў-франтавікоў, што не вярнуліся з вайны, пра іх баявыя подзвігі нагадае ўдзельнік вайны П. Адашкевіч. Пра сённяшні і заўтрашні дзень нашага сельсавета даведаецеся ад старшыні Рубілкаўскага сельсавета Н. Шумскай. Аб працоўных справах калгаснікаў гаспадаркі раскажа намеснік старшыні В. Янкоўскі. У заключэнне вы пагледзіце канцэрт».

На вечары гучалі музыка, песні, паказвалася светлавая газета, кадры якой былі прысвечаны перадавікам калгаса. Умела вялі вечар вядучыя.

За аснову сцэнарыя вечара «Працай славім Радзіму сваю» ўзялі метадычную распрацоўку Гомельскага абласнога дома народнай творчасці. Героямі гэтага вечара сталі нашы лепшыя даяркі, свінаркі, пастухі, паляводы, механізатары. Пра іх самаадданую працу было сказана многа цёплых слоў. Як гэта хвалюе людзей, як удзячны яны за тое, што іх сціплую працу шануюць у калгасе! Па заяўках перадавікоў склалі канцэрт.

Навінка ў нашай рабоце — асенні баль. Зала, дзе ён праходзіў, была ўпрыгожана залатым асеннім лісцем, чырвонымі рабінавымі гронкамі. У фае арганізавалі выстаўку сельскагаспадарчых культур, вырашчаных рукамі калгаснікаў. На балі павінна быць весела, і мы арганізавалі гульні, танцы, а прызамі сталі — пудовы качан капусты, вырашчаны ў пятай брыгадзе, духмяныя яблыкі і грушы з калгаснага саду, цудоўная бульба, буракі. І смеху хапала, і радасці...

## ВЕДАЦЬ, ЧЫМ ЖЫВЕ ВЁСКА



Загадчыца Усялюбскай сельскай бібліятэкі Навагрудскага раёна **Фаіна Гаўрошка** сказала:

— Перад намі, бібліятэкарамі, стаіць і такая задача: выхаваць у чытачоў цікавасць да літаратуры па пытаннях эканомікі. Мы праводзім для гэтага гутаркі на тэмы: прадукцыйнасць працы, сабекошт прадукцыі, рэнтабельнасць вытворчасці. І скажу вам, што яны выклікаюць цікавасць, бо для ілюстрацыі заўсёды карыстаемся прыкладамі, узятымі з жыцця калгаса.

Вялікую работу па прапагандзе эканамічных ведаў праводзяць спецыялісты сельскай гаспадаркі. У нас працуе бюро, якое наладжвае заняткі па эканоміцы з механізатарамі і жывёлаводамі. Задача бібліятэкі — сачыць за навінкамі літаратуры, своечасова паведамляць аб іх спецыялістам сельскай гаспадаркі.

Шмат увагі аддае бібліятэка прапагандзе літаратуры аб перадавым вопыце. Ёсць у нас пастаянная выстаўка кніг «Вопыт перадавікоў — у наш калгас». Выстаўка сістэматычна папаўняецца новай літаратурай. Многім чытачам дапамагае картатэка «Дасягненні навукі і практыкі — у жыццё». З аглядам гэтай літаратуры я выступала неаднаразова і перад механізатарамі калгаса, і перад спецыялістамі сельскай гаспадаркі.

Сёння ставіцца задача перавесці гаспадарку на цэхавую арганізацыю працы. Кніга тут вялікі памочнік. На жаль, такой літаратуры ў бібліятэцы вельмі мала.

Старанна рыхтаваліся нашы актывісты да абмеркавання брашуры звеннявога суседняга калгаса «Звязда» В. Стасевіча «50 цэнтнераў збожжа з гектара». Удзельнікі канферэнцыі гаварылі пра арганізацыю працы ў звяне, выкарыстанне тэхнікі, павышэнне прадукцыйнасці працы, пра нескарыстаныя рэзервы, якія ёсць у гаспадарцы.

Жывёлагадоўчыя фермы ў нашым калгасе поўнасцю механізаваны. Мне даручана было афарміць чырвоны куток на адной з ферм. Зрабіла ўсё, што трэба: і лозунгі, і плакаты, і спісы літаратуры, і кніжную паліцу завяла. Спачатку мала хто з даярак браў чытаць гэтыя кнігі. Пасля таго, як расказала, што гэта за літаратура, чым дапаможа яна даяркам, цікавасць да кніг павялічылася.

Поспех работы сельскай бібліятэкі — у цеснай сувязі з жыццём. Трэба ведаць, чым жывуць працаўнікі вёскі, што іх хвалюе, што радуе, і своечасова памагаць ім.

## ...І САМАДЗЕЙНЫМІ АРТЫСТАМІ



— Славіцца хата не вугламі, а пірагамі — гаворыцца ў народнай прыказцы. У дачыненні да клуба гэтая прыказка будзе гучаць крыху інакш: славіцца клуб і вугламі і самадзейнымі артыстамі,— так пачаў сваё выступленне дырэктар Кукаўскага сельскага дома культуры Ганцавіцкага раёна **Іван Муха.**

Тры гады назад у вёсцы Кукава калгас «Светлы шлях» пабудаваў палац культуры. Усё ў ім прадугледжана, каб калгаснік мог добра адпачыць: зручная глядзельная зала і сцэна, прыгожае фае, бібліятэка, пакоі для работы самадзейных гурткоў. Прыйшоў я ў дом культуры і разгубіўся: з чаго пачынаць? На першым пасяджэнні савета дома культуры пачалі думаць, як стварыць самадзейныя гурткі. Запрасілі ў клуб аматараў песні, іх у вёсцы ўсе добра ведаюць. Але многія не прыйшлі. Давялося ісці па хатах, гутарыць з людзьмі.

Паступова лёд недаверу таяў. Сёння ў нас працуюць харавы, драматычны і танцавальны гурткі, у якіх удзельнічаюць каля 70 трактарыстаў, паляводаў і жывёлаводаў калгаса.

Праўленне калгаса і яго старшыня чуйна прыслухоўваюцца да нашых патрэб. Пашылі касцюмы ўдзельнікам хору, набылі камплект інструментаў для духавога аркестра.

Нашы канцэрты карыстаюцца поспехам нават у суседніх гаспадарках — «Сцяг Леніна», імя Кірава, «Расія», «Праўда» і іншых. Заўсёды ўдзельнічаем у раённых аглядах, выступалі ў Брэсце на абласным конкурсе. Хораша спявае дуэт даярак Ніны Мурашкі і Яніны Антановіч, салісты — трактарыст Віктар Гардзей, касір калгаса Соф'я Дзенісеня. У іх рэпертуары пераважаюць народныя песні.

Летам пры доме культуры быў створан агітпоезд. Пры ім — лектар, удзельнікі агітбрыгады, юрыст, работнікі камбіната бытавых паслуг.

Жыццё ідзе і патрабуе новых спраў ад сельскага культработніка. Наш драматычны калектыў, які ставіў дагэтуль толькі інтэрмедыі і аднаактовыя спектаклі, зараз бярэцца за рэпетыцыі п'есы А. Макаёнка «Трыбунал». Агітбрыгада рыхтуе новую тэматычную праграму да абласнога конкурсу агітацыйна-мастацкіх брыгад, у якой мы раскажам пра сённяшнія справы свайго калгаса, прыгажосць родных мясцін.

Да нас часта прыязджаюць работнікі раённага дома культуры, бываюць метадысты з абласнога дома народнай творчасці. Мы шчыра ўдзячныя ім за дапамогу. На жаль, не бывае ў нас цёплых сардэчных сустрэч з кампазітарамі, рэжысёрамі, вядомымі акцёрамі, якія б расказалі пра сваю творчасць, дапамаглі б вясковым артыстам хоць парадай.

## НА НОВЫМ ЭТАПЕ



Цікавым было і выступленне загадчыцы Каліноўскай сельскай бібліятэкі Бялыніцкага раёна **Валянціны Блізняковай.**

— Жыццё патрабуе, — пачала яна,— каб у кожным сельскім савеце была цэнтральная бібліятэка, якая дапамагала б у рабоце іншым бібліятэкам, незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці. У нашым Цехцінскім сельсавеце гэтыя нялёгкія абавязкі ўскладзены на Каліноўскую бібліятэку, якой я загадваю. Ёсць яшчэ дзве сельскія, прыклубная і школьная бібліятэкі.

Розныя людзі працуюць у гэтых установах, розныя ў іх адукацыя, стаж работы, нарэшце—характар і ўзрост.

---

*Тэатр*

Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# НА МАРАЛЬНА-ЭТЫЧНУЮ ТЭМУ

**СПЕКТАКЛЬ «БІЛЕТ У МЯККІ ВАГОН» У РУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ ТЭАТРЫ БССР імя А. М. ГОРКАГА**

Новы драматычны твор Аркадзя Маўзона, як прынята называць, на маральна-этычную тэму. Гэта тэма ў апошнія гады заняла значнае месца ў нашай драматургіі і асабліва вялікае — у творчасці самога Маўзона. Дастаткова сказаць, што большая палавіна яго п'ес напісана менавіта на маральна-этычныя тэмы.

Жаданне драматурга закрануць хвалюючыя праблемы ў жыцці людзей, гаварыць з гледачамі аб высокім прызванні чалавека, аб яго крыштальным сумленні, заклікаць іх да добрых спраў — вельмі пахвальнае жаданне. Нам трэба адкідаць усё благое, наноснае, каб нішто не замінала ў жыцці, не адцягвала ўвагу і, тым больш, сілу і энергію на другараднае, малаістотнае, каб нішто не азмрочвала людзей, не перашкаджала ім. Каб сённяшні і заўтрашні чалавек быў крыштальна чысты, высакародны, быў такі заўсёды і ва ўсім — у працы, у адносінах паміж людзьмі, у сямейным побыце. Пра гэта трэба гаварыць, пісаць, гэтага трэба дамагацца паўсядзённа і ўсімі даступнымі сродкамі.

Але, як вядома, адна справа— добрыя намеры і памкненні і другая — рэалізацыя добрых намераў і памкненняў у мастацкім творы. Дыстанцыя ж паміж імі ў п'есе «Білет у мяккі вагон» атрымалася немалой.

Падтрымліваючы драматурга ў яго зацікаўленасці, у адданасці маральна-этычнай тэме, нельга адначасова з гэтым не адзначыць тых даволі трывожных недахопаў, якія маюцца ў яго п'есах, у прыватнасці, у апошняй — «Білет у мяккі вагон». Асабліва не выходзячы за межы ўлюбёнай тэмы, аўтар, ствараецца ўражанне, не вельмі імкнецца выйсці за межы адных і тых жа праблем, вобразаў, нават драматычных калізій і сітуацый. Своеасаблівае кола замкнулася, і ў выніку — адбываецца рух не наперад, а толькі вярчэнне па кругавой арбіце.

Прычыну замкнутасці, думаецца мне, трэба шукаць у абмежаванасці выбару для драм жыццёвага матэрыялу. Падзеі п'ес найчасцей разгортваюцца ў шыкоўных мінскіх кватэрах і на не меней шыкоўных загарадных дачах. Праўда, у п'есе «Білет у мяккі вагон» гаворыцца яшчэ і пра нейкія Хлюпенічы. Але менавіта толькі Хлюпенічы. Не больш і не менш.

Замкнутасць у адной сферы, у адным коле вядзе да самапаўтораў, якіх у п'есе «Білет у мяккі вагон», на жаль, даволі шмат. Асабліва, калі параўнаць гэты твор з драмай «Пад адным небам», якая выйшла з-пад пяра Аркадзя Маўзона некалькі год назад.

У прыватнасці, даволі блізкімі атрымаліся цэнтральныя вобразы — Барыс Мякішаў з п'есы «Пад адным небам» і Сцяпан Багун з твора «Білет у мяккі вагон». Блізкімі па сваёй праблематыцы, нават па ўчынках. Абодва падманваюць дзяўчат, шукаюць выгаднага шлюбу. Асноўныя іх намаганні і мэты — самасцвярджэнне сваёй персоны. Яны імкнуцца стварыць кар'еру, забяспечыць сабе цёплае, сытае жыццё.

Абодва персанажы — кар'ерысты. Да сваёй мэты ідуць напралом, няшчадна топчучы светлыя пачуцці іншых людзей, чужое шчасце.

Праўда, А. Маўзон стараецца хоць у нейкай ступені надзяліць цэнтральны персанаж п'есы «Білет у мяккі вагон» і асобнымі новымі рысамі. Гэтыя новыя рысы ў тым, што Сцяпан Багун не такі адкрыты нягоднік, як яго папярэднік з драмы «Пад адным небам», ён кар'ерыст больш скрыты і вытанчаны. Яго цяжка распазнаць з першага погляду, сапраўдная сут-

# ДОБРЫХ СПРАЎ

Усё гэта трэба абавязкова ўлічваць. Пабывала ва ўсіх бібліятэках і высветліла, што трэба ў першую чаргу правільна весці каталог, расстаўляць на паліцах кнігі, прыгожа афармляць стэнды, плакаты і іншую наглядную агітацыю.

Пераканалася, што ў цэнтральнай бібліятэцы трэба мець метадычны куток. І зрабіла яго. На асобным стэндзе змясціла план бібліятэчнага абслугоўвання насельніцтва, карту бібліятэчнай сеткі сельсавета і паказчыкі работы яго бібліятэк. Метадычныя матэрыялы, якія высылае нам Магілёўская абласная бібліятэка, захоўваюцца ў спецыяльных папках: «Прапаганда матэрыялаў XXIV з'езда КПСС і XXVII з'езда КПБ», «Прапаганда ленінскай спадчыны». «Прапаганда грамадска-палітычнай літаратуры», «Работа з кніжным фондам», «Прапаганда сельскагаспадарчай кнігі», «Прапаганда мастацкай літаратуры», «Работа з маладым чытачом».

Зрабіўшы ўсё гэта, я запрасіла бібліятэкараў сельсавета, каб пазнаёміць іх з нашымі метадычнымі матэрыяламі і высветліць, каму ў чым дапамагчы. У гутарцы ўзнікла думка каардынаваць камплектаванне кніжных фондаў і падпіску на перыядычныя выданні. Пры набыцці новай літаратуры вырашылі ўлічваць спецыялізацыю гаспадаркі, на тэрыторыі якой знаходзіцца бібліятэка. Напрыклад, у зоне абслугоўвання Цехцінскай сельскай бібліятэкі асноўная галіна гаспадаркі калгаса — буйная рагатая жывёла, у зоне Асман-Хасаеўскай бібліятэкі — свінагадоўля. Вось мы і вызначылі прафіль кожнай з пяці бібліятэк сельсавета. Што датычыць кніг для юнага чытача, якія ёсць у кожнай бібліятэцы, то зыходзім з колькасці дзяцей. Больш чытачоў—больш і кніг.

На маю думку, і дамоўленасць на падпіску перыядычных выданняў таксама прынесла карысць. Адна бібліятэка выпісала часопісы «Полымя» і «Маладосць», другая—«Новый мир», «Молодежную эстраду», трэцяя — «Вокруг света». Пры абмежаваных сродках у адрас бібліятэк сельсавета будзе ісці нямала часопісаў, якімі можна абменьвацца.

Нашы пастаянныя клопаты — павышэнне кваліфікацыі прапагандыстаў кнігі. Для іх наладжваюцца індывідуальныя і групавыя практыкумы.

Разам абмяркоўваем метадычныя матэрыялы, якія атрымліваем з абласной бібліятэкі, імкнёмся іх скарыстаць у сваёй рабоце. Нам добра памаглі метадычныя пісьмы, прысвечаныя 50-годдзю з дня нараджэння Івана Шамякіна і Івана Мележа. Творы гэтых пісьменнікаў не залежваюцца на паліцах бібліятэк.

У сваіх планах разам з саветам бібліятэкі мы мяркуем звярнуць больш увагі на прапаганду твораў беларускіх паэтаў, асабліва сярод маладых чытачоў і вучняў старшых класаў. Будзем рабіць агляды новых паэтычных зборнікаў, рыхтаваць вечары паэзіі. Было б добра, каб на сельскіх святах паэзіі бывалі беларускія паэты.

## НАШ КЛОПАТ — МАЛАДЫ ЧЫТАЧ



— У 1965 годзе нашу бібліятэку назвалі бібліятэкай выдатнай работы. Гэта да многага абавязвае і перш за ўсё—быць ініцыятарам добрых спраў. Ганаровае званне, як кажуць, не пажыццёвае. Добра працуеш —назавуць бібліятэкай выдатнай работы, знізіш патрабавальнасць — і не будзеш лічыцца лепшай у раёне. Для нас стымул у рабоце — спаборніцтва з Камайскай сельскай бібліятэкай.

Так пачала сваё выступленне загадчыца Дунілавіцкай сельскай бібліятэкі Пастаўскага раёна **Вольга Мышко.** Яна расказала, як у бібліятэцы прывіваецца любоў да кнігі. Тут 760 чытачоў, сярод іх — 150 вучняў. За дзесяць месяцаў бібліятэка выдала 9 250 кніг. Добра гэта ці дрэнна? Відаць, усё ж няблага. У сярэднім кожны чытач за гэты час прачытаў 11 кніг.

— Калі гаварыць пра мастацкую літаратуру, то найбольшым поспехам карыстаюцца кнігі «пра вайну» і дакументальная літаратура з серыі «Ваенныя мемуары». Мы аддаём вялікую ўвагу прапагандзе грамадска-палітычнай і сельскагаспадарчай літаратуры.

Вядома, лягчэй падабраць чытачу дэтэктыўны раман, цяжэй прывучыць яго чытаць спецыяльную літаратуру. Але ў нас ёсць памочнік — партыйная арганізацыя калгаса, спецыялісты сельскай гаспадаркі. Пры іх актыўным удзеле мы правялі вечар «Механізатар — усіх перамог арганізатар», канферэнцыю чытачоў «Сенаж — высакаякасны корм». Кожны тыдзень у бібліятэцы арганізуем калектыўныя чытанні і гутаркі па матэрыялах XXIV з'езда партыі. Аформілі стэнд «Планы партыі — планы народа».

Асаблівыя нашы клопаты — малады чытач. Неаднаразова на парадку дня камсамольскіх сходаў стаяла пытанне «Твой чытацкі абанемент». Выступаючы на сходах, я аналізавала, што чытае моладзь, што яе цікавіць, давала парады. Цяпер многія маладыя калгаснікі прыслухоўваюцца да гэтых парад. Самы актыўны ўдзел прымаюць камсамольцы ў абмеркаванні планаў работы бібліятэкі. Іх прапановы памагаюць нам ажывіць работу з моладдзю. Камсамольцы ўзяліся загадваць перасоўкамі. Асабліва добра працуе А. Саевіч у вёсцы Нова-Заневічы. 25 маладых чытачоў з'яўляюцца кнiганошамі. Яны рэгулярна наведваюць хворых і ветэранаў калгаснай працы.

Ёсць пры нашай бібліятэцы дзіцячае аддзяленне, гаспадарамі якога поўнасцю сталі юныя чытачы на чале з вучаніцай восьмага класа Вольгай Бусько. Члены савета праводзяць гутаркі, ранішнікі, абмеркаванні кніг, сочаць за захаваннем кніжнага фонду. Так выхоўваюцца сапраўдныя кнігалюбы, а магчыма — і будучыя бібліятэкары.

## СЯБРУЮЦЬ КЛУБ І БІБЛІЯТЭКА



— На вёсцы часта ў адным памяшканні месцяцца і дом культуры і сельская бібліятэка,—сказала загадчыца Вензавецкай сельскай бібліятэкі Дзятлаўскага раёна **Тамара Горбач.**—Але не заўсёды яны працуюць у дружбе і згодзе.

Нашы дом культуры і бібліятэка—сябруюць. Іх супрацоўніцтва дапамагло больш даходліва, канкрэтна наладзіць прапаганду рашэнняў XXIV з'езда партыі. Яркая наглядная агітацыя, тэматычныя вечары, сустрэчы з перадавікамі вытворчасці, адпачынак калгаснікаў — сталі нашым агульным клопатам.

Старанна рыхтавалі мы вечар «У камунізм крочыць Беларусь любімая мая». Здаецца, чыста клубнае мерапрыемства, а знайшлося многа клопатаў і бібліятэкару. Увагу прыцягнула тэматычная выстаўка кніг. Уважліва слухалі прысутныя агляд літаратуры, у якім раскрыта веліч сённяшняга і заўтрашняга дня рэспублікі. Пасля многія чытачы прыйшлі ў бібліятэку і ўзялі кнігі, якія іх зацікавілі на вечары.

Разам з партыйнай арганізацыяй калгаса правялі канферэнцыю «Навуковая арганізацыя працы на ферме». Работнікі клуба падрыхтавалі розныя плакаты, дыяграмы.

Масавыя мерапрыемствы праводзім не толькі ў доме культуры, але і на фермах, у брыгадах, майстэрнях, напрыклад, цыкл лекцый «Велічная праграма будаўніцтва камунізма». Пасля кожнай лекцыі ўвага слухачоў скіроўваецца на выстаўкі кніг, якія мы раім прачытаць.

## ЛЮБІЦЬ СВОЙ КРАЙ



— Прыгадваецца песня «Люблю наш край — старонку гэту» на словы старэйшай беларускай паэтэсы Канстанцыі Буйло, — кажа дырэктар Шчорсаўскага сельскага дома культуры Навагрудскага раёна **Уладзімір Гінц.** — Задушэўная песня абуджае пачуцці любві да роднага краю, да яго людзей. Мабыць кожная ўстанова культуры шмат увагі аддае сённяшняму патрыятычнаму выхаванню моладзі, таго пакалення, якое, на шчасце, не зведала жахаў вайны.

Вырашаць гэтую задачу нам дапамагаюць розныя клубныя мерапрыствы і асабліва работа народнага краязнаўчага музея калгаса імя Шчорса. Дзесяць год назад у сярэдняй школе быў створан музей. Яго кіраўнік вялікі энтузіяст-краязнаўца—выкладчыца гісторыі В. Сілкова. Мінула ўжо пяць год, як экспазіцыя музея разгорнута ў сельскім доме культуры.

Музей наш — жывая гісторыя краю. Яго экспанаты знаёмяць з далёкім мінулым Шчорсаў, расказваюць пра Вялікі Кастрычнік і грамадзянскую вайну, дзейнасць Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, мужную барацьбу народа ў час Вялікай Айчыннай вайны. Не менш цікавыя раздзелы «Летапіс калгаса імя Шчорса», «Лепшыя людзі калгаса», «Яны закончылі нашу школу», «Адам Міцкевіч—вялікі польскі паэт, наш зямляк».

У музеі сабрана больш дзвюх тысяч экспанатаў: здымкі, лістоўкі, плакаты, падпольныя газеты, зброя і рэчы герояў вайны.

Хвалююча праходзілі ў доме культуры сустрэчы з былымі камуністамі Заходняй Беларусі — вязнямі канцлагера Картуз-Бяроза, з пісьменнікамі М. Танкам, А. Махначом, М. Кругавых, А. Карпюком, М. Ткачовым і іншымі.

Штогод маладыя калгаснікі ўдзельнічаюць у паходах па месцах баявой і працоўнай славы, выязджаюць на экскурсіі ў Брэсцкую крэпасць-герой, да мемарыяльнага комплексу Хатынь, у Беларускі музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

□

Канферэнцыя прайшла актыўна, цікава. На ёй выступілі дырэктары Ражанскага сельскага дома культуры (Шчучынскі раён) М. Буяніца, Блужскага дома культуры Пухавіцкага раёна Г. Заблоцкая, Верхнянскага дома культуры Глыбоцкага раёна М. Ермаловіч, Яромінскага дома культуры Гомельскага раёна А. Калачова і іншыя. Вынікі навукова-практычнай канферэнцыі падвёў намеснік міністра культуры БССР Р. Мачулін.

Багатай была практычная частка гэтай цікавай канферэнцыі. Уражанне пакінула паездка ў калгас «Прагрэс», Гродзенскага раёна, дзе сельскія работнікі культуры агледзелі новы пасёлак у Верцялішках, сустрэліся з кіраўнікамі перадавой у рэспубліцы гаспадаркі, пазнаёміліся з работай дома культуры і сельскай бібліятэкі, прысутнічалі на тэматычным вечары «Сыходзіш, вёска, з яснай явы». Карысныя сустрэчы і знаёмствы адбыліся ў калгасе «Авангард» Гродзенскага раёна. Там удзельнікі канферэнцыі агледзелі будаўніцтва жывёлагадоўчага гарадка, пабывалі ў доме жывёлавода, мясцовым сельскім клубе і бібліятэцы. Многія ездзілі ў Ваўкавыскі раён. У Вярэйкаўскім сельскім доме культуры адбыліся тэматычны вечар «Ленінскай партыі слава» і прагляд аматарскіх кінафільмаў. Удзельнікі канферэнцыі пазнаёміліся з работай кабінета тэхнічных сродкаў культасветработы і сельскай бібліятэкі.

Цёпла сустрэлі бібліятэчныя і клубныя работнікі выступленне агітбрыгады Бераставіцкага раённага дома культуры, якая паказала ім прэм'еру «Хлеб вам і соль, сябры-землякі». Агітбрыгада Гродзенскага палаца культуры тэкстыльшчыкаў выступіла з праграмай — «Вось яна, Амерыка».

---

насць, намеры Сцяпана раскрываюцца не адразу. І тут драматург мае поўную рацыю. Нягоднікі, кар'ерысты ўвесь час павінны прыстасоўвацца, падладжвацца, усё больш і больш старанна хаваць сваё сапраўднае аблічча за высакароднай, мілай маскай. А ў іншым выпадку яны вельмі хутка будуць выкрыты і абясшкоджаны для нашага грамадства.

Але выбіраючы ўвогуле правільны кірунак у вырашэнні вобраза, аўтар дае даволі слабыя, а часам непераканаўчыя і нават супярэчлівыя матывіроўкі ўчынкаў і паводзін Сцяпана. І таму гэты персанаж цяжка прымаць за тонкага, скрытнага, а значыць і асабліва небяспечнага нягодніка, прайдзісвета, бо віны яго там, дзе шукае драматург, нярэдка няма. Яго значна лягчэй апраўдаць, чым асудзіць, і акцёру В. Шуру разам з рэжысёрам А. Смеляковым увесь час трэба прыкладваць нямала намаганняў, каб гледачы не палічылі Сцяпана Багуна за станоўчага.

Сапраўды, што робіць благога гэты чалавек? Найбольшая загана Сцяпана ў п'есе «Білет у мяккі вагон» тая, што ён пасля заканчэння інстытута не едзе працаваць у нейкія, як гаворыцца ў творы, Хлюпенічы, а паступае вучыцца ў аспірантуру.

Вядома, аспірантура, як, дарэчы, і іншыя ўстановы, не гарантавана ад кар'ерыстаў і нават прайдзісветаў. Але называць кар'ерыстамі і прайдзісветамі людзей выключна за тое, што яны паступаюць у аспірантуру, не толькі не аб'ектыўна, а і наіўна, і наўрад ці ёсць патрэба гэта спецыяльна даказваць цяпер, у гады навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Гэта ніякі не білет у мяккі вагон, як уяўляецца аўтару драматычнага твора. (Зазначу заадно ў дужках пра саму метафару, якая паслужыла назвай п'есы. Абурацца з-за таго, што чалавек хоча ехаць у мяккім вагоне, відаць, таксама няма падстаў — было б жаданне і, як той казаў, па кішэні).

Зрэшты, могуць запярэчыць, што вось Алег больш здольны і таленавіты за Сцяпана, але ён не паступіў у аспірантуру. Аднак Сцяпан Багун не пераходзіў дарогу свайму таварышу, той жа не паступаў і нават не збіраўся паступаць, у Алега іншыя планы і мэты. І вініць у такім разе трэба не Сцяпана. А наогул кожны абсалютна вольны выбіраць у жыцці тую дарогу, якая яму больш падабаецца, больш па душы.

Другое абвінавачанне, якое прад'яўляе драматург цэнтральнаму персанажу п'есы, у тым, што Сцяпан Багун несумленна абышоўся з Тоняй. Але ён яе не кахаў і, здаецца, нават не даваў асаблівых падстаў дзяўчыне пра гэта думаць. А ва ўчынку Сцяпана вінавата хутчэй за ўсё сама Тоня. Прынамсі, такі вывад робіш на спектаклі, гэта як бы спецыяльна падкрэсліваецца пастаноўшчыкам.

Калі праз многа часу бацькі Сцяпана дазналіся пра былыя сувязі сына з Тоняй, яны вельмі перажываюць і ўсяляк стараюцца памагчы выправіць памылку. І. Ражба ў ролі Багуна-старэйшага і асабліва А. Абуховіч у ролі маці Сцяпана Дар'і Цімафееўны іграюць шчыра, праўдзіва. Але намаганні і паводзіны гэтых персанажаў у спектаклі іншы раз здаюцца занадта наіўнымі, таму што часам цяжка, проста немагчыма верыць у іх учынкі, у іх словы, у тыя сітуацыі, у якія яны пастаўлены драматургам.

Прашу прабачэння ў акцёраў, што пра іх работы тут даводзіцца гаварыць надзвычай сцісла. Адзначу, што яны іграюць старанна, разам з рэжысёрам у асноўным правільна імкнуцца да таго, каб вобразы атрымаліся жывымі, цікавымі. І да тых, пра якіх ужо гаварылася, трэба далучыць Л. Бірукову, Л. Былінскую, З. Асмалоўскую, Д. Мазуро і некаторых іншых. Спектакль у выніку агульных старанняў глядзіцца, як ужо гаварылася, успрымаецца гледачом.

Дарэчы, у ім ёсць нямала правільных, добрых думак, якія выказвае аўтар вуснамі сваіх герояў. На іх чуйна рэагуюць у час спектакля гледачы, да іх з радасцю, поўнасцю далучаешся. Але нярэдка гэтыя думкі, на жаль, у п'есе застаюцца толькі на правах дэкларацый, яны не рэалізуюцца ў мастацкім творы і таму арганічна не ўплятаюцца ў саму яго тканіну. І з-за гэтага не маюць таго вялікага рэзанансу, на які маглі прэтэндаваць.

Сумесныя намаганні творчага калектыву маглі прынесці яшчэ большы плён.

Аркадзь Маўзон, магчыма, і надалей, будзе распрацоўваць маральна-этычную тэму. І вельмі хацелася б, каб драматург у сваіх наступных, новых творах выводзіў герояў на значна больш шырокі жыццёвы прастор. Тады іх сутыкненні набудуць большую вастрыню і грамадзянскую значнасць. А разам з тым павялічыцца, узнімецца і сам пафас аўтарскай барацьбы за высокія маральныя прынцыпы ў жыцці людзей, у іх паўсядзённым побыце.

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# НЕКАЛЬКІ РАЗВАГ І МЕРКАВАННЯЎ



КРЫТЫКА—галіна своеасаблівая, складаная, спецыфічная, таму ў нейкай ступені і рызыкоўна набліжацца да яе радавому празаіку. Але тыя вялікія і натхняючыя задачы, што пастаўлены перад літаратурнай крытыкай XXIV з'ездам КПСС, прымушаюць кожнага з нас задумацца над праблемамі развіцця сучаснай літаратурнай крытыкі. А калі пачынаеш думаць, чытаць, аналізаваць, рабіць вывады, супастаўляць, то з'яўляецца чыста чалавечная патрэба падзяліцца і сваімі думкамі, развагамі, меркаваннямі.

У нашай літаратурнай крытыкі, на маю думку, ёсць бясспрэчныя дасягненні—гэта не патрабуе асобных доказаў. Выйшла нямала цікавых па змесце і глыбокіх па сваёй праблематыцы кніг па літаратуразнаўстве, ёсць значныя, з душой напісаныя манаграфіі, асобныя даследаванні. Больш стала з'яўляцца на старонках нашага друку вартых увагі рэцэнзій, водгукаў, анатацый, аглядаў чарговых нумароў нашых літаратурных часопісаў.

Такім чынам, гаварыць аб нейкім заняпадзе нашай літаратурнай крытыкі было б зусім не правамерна (такія ноткі ўсё ж чуюцца ў некаторых дыскусійных артыкулах). А вось выказаць некалькі пажаданняў у сувязі з далейшым развіццём літаратурнага працэсу, паразважаць адносна некаторых праблем сучаснай крытыкі, маючы на ўвазе ўказанні партыйнага з'езда, відаць, ёсць пэўны сэнс.

Крытычныя і літаратуразнаўчыя выступленні многіх нашых аўтараў прыкметна паглыбіліся, набылі пераканаўчую навуковую аргументацыю, цікавасць, эмацыянальнасць. Некаторыя публікацыі такіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў, як А. Адамовіч, В. Каваленка, І. Навуменка, А. Лойка, Р. Шкраба, Ул. Юрэвіч, Р. Бярозкін, С. Андраюк, Я. Герцовіч, Д. Бугаёў, П. Дзюбайла, А. Мальдзіс, М. Ярош, М. Арочка, В. Бечык (можна было б назваць і яшчэ некалькі прозвішчаў), чытаеш з не меншай цікавасцю і асалодай, чым добры твор прозы ці паэзіі.

У той жа час узнікае жаданне штосьці дапоўніць або паправіць, з нечым паспрачацца. Пры чытанні некаторых крытычных артыкулаў апошняга часу ствараецца ўражанне, што асноўны пафас даследаванняў схіляецца, як нам здаецца, больш у адзін бок: высвятляюцца пераважна эстэтычныя вартасці таго ці іншага твора, таго ці іншага пісьменніка, або ўдакладняецца і ўдасканальваецца сама акадэмічная спецыфіка мастацкай творчасці. Прычым робіцца гэта часта з пэўным налётам абстрактнасці, без прывядзення адпаведных прыкладаў, фактаў. А вось тым магістральным праблемам сацыяльнага характару, якія павінны вызначыць асноўную сутнасць, асноўны характар і напрамак літаратурнай творчасці, аддаецца значна менш увагі. Усім нам вядома, што крытыкі маюць поўнае права і падказаць, асвятліць подступы да іх, нават калі сёння і няма вартага літаратурнага аб'екта для такога даследавання і перспектыўнага абагульнення, калі такі твор (скажам умоўна) яшчэ і не з'явіўся. У гэтых пытаннях патрабуецца актыўная чуйнасць да сучаснага жыцця, да вялікіх пераўтварэнняў у нашым грамадстве. Чуць і бачыць гэта трэба штодзённа, папаўняць свае веды, адчуванні і ўражанні няспынна і не задавальняцца толькі тымі тэарэтычнымі і эстэтычнымі запасамі, якія былі набыты раней. Тады і погляд наперад будзе больш смелы, натхнёны і праўдзівы.

Прыклад хацелася б прывесці такі. Вядома, што без аналізу канфлікту твора наўрад ці можна гаварыць пра нейкія іншыя яго кампаненты. Пра канфлікты гаворадь крытыкі нямала, часам займальна, з належнымі эмоцыямі. Але канфлікты гэтыя ў пераважнай большасці грунтуюцца на розных пытаннях і аспектах пераадолення культу асобы. Канечне, падставы для такой гаворкі былі: твораў з такім зарадам у нас было нямала, многія літаратурныя персанажы раскрываюць свае характары і душы на гэтых маральна-этычных прынцыпах. Пэўны грунт для такіх канфліктаў ёсць і цяпер. Але ж ці толькі гэтыя матывы павінны вызначаць і канфліктнасць і ўвесь сацыяльны і ідэйна-маральны пафас нашых твораў? Ну, а што будзе тады, калі тыя адмоўныя з'явы, якія з'явіліся ў пэўны час з прычыны адхілення ад ленінскіх норм жыцця, знікнуць, мы іх пераадолеем канчаткова? Тады і канфліктаў не будзе, і даследаваць не будзе чаго? Такога, вядома, быць не можа, бо і цяпер у нашым жыцці, у нашым грамадстве ёсць нямала канфліктаў, праблем, якія варты ўвагі мастака. І не абавязкова гэта традыцыйная барацьба з перажыткамі мінулага. Ёсць і іншыя адмоўныя з'явы ў нашым жыцці, якія перашкаджаюць нашаму руху наперад і з якімі трэба весці рашучую барацьбу. Напрыклад, праявы сучаснага мяшчанства.

Раней мешчанін паўставаў перад намі з усімі сваімі відавочнымі атрыбутамі: нігілізмам, абывацельшчынай, падхалімствам, хціваацю, нястрымным імкненнем да асабістай выгады, да нажывы. І цяпер яшчэ ёсць такія, але іх наша грамадства проста адмятае, выграбае з усіх куткоў, як смецце. Але часта мы бачым і адчуваем, што з'яўляецца ў нашым грамадстве новы тып мешчаніна. Распазнаць яго адразу не так і лёгка, бо ён крочыць побач з намі, бо на словах ён самы ідэйны і адданы справе камунізма чалавек.

Хіба гэта не матэрыял для сучасных канфліктаў у літаратурных творах?

Ёсць у нас іншыя надзённыя задачы, якія або ў стадыі вырашэння або яшчэ не вырашаюцца, што ўзнікаюць на глебе нашага росту і на пэўным этапе могуць служыць асновай для даволі сур'ёзных канфліктаў. Напэўна, варта было б нашым літаратурным тэарэтыкам задумацца і над праблемамі ўзаемаадносін і ўзаемаўплыву сучаснага чалавека і прыроды, над сутнасцю жыцця і дзейнасці сучаснага чалавека ва ўмовах бурнага навукова-тэхнічнага прагрэсу. Ёсць нямала і іншых праблем.

Хацелася б тут адзначыць, што ў творах апошняга часу, такіх, як «Мсціжы» Івана Пташнікава, «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава, «Зноў у Будневе» Анатоля Кудраўца, «Непрыкаяны маладзік» Алеся Асіпенкі, «І нічога ўзамен» Алеся Савіцкага, «Абеліск» Васіля Быкава, «У бары на світанні» Івана Навуменкі, заўважаецца значнае пашырэнне дыяпазону канфліктаў. Аднак чамусьці нашы крытыкі амаль не заўважаюць гэтага, і калі разбіраюць прыроду канфліктаў, то даволі часта карыстаюцца старымі меркамі і катэгорыямі.

Цяпер больш-менш сістэматычна вядзецца гаворка пра ўсё большае развіццё маральна-этычнага, інтэлектуальнага напрамку ў літаратуры. Гаворка гэтая зусім правамерная, але нам здаецца, што тут таксама ёсць некаторыя ўпушчэнні ў нашых крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Калі аналізуецца гэтае пытанне і вызначаюцца яго перспектывы, то амаль заўсёды бярэцца пад увагу толькі інтэлігент у традыцыйным разуменні гэтага слова:

---

Сямён БУКЧЫН

# ПРА ТАЛЕНТ І ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ



ГАДОЎ пятнаццаць назад у часопісе «Крокодил» з'явілася такая карыкатура: літаратурнае шэсце ўзначальвалі мажныя празаікі, за імі крочылі крыху менш салідныя, але яшчэ досыць упэўненыя драматургі, а замыкаў шэсце нехта худасочны—крытык. І пяро ў яго тырчэла не ўгору, як ва ўсіх, а ўніз. Я не хачу нагадваць тую карыкатуру з асаблівай шматзначнасцю. Гэтыя пятнаццаць гадоў для савецкай літаратурнай крытыкі былі гадамі сур'ёзных набыткаў. Але ж невыпадкова ў артыкуле Анатоля Вярцінскага «Крытык—талент асаблівы або: як быць з прынцыповасцю?» (1 кастрычніка 1971 г.) востра ставіцца пытанне: «Што ж здарылася з ёй, з крытыкай? Чаму і з якога часу захварэла яна на гэту хваробу—недахоп прынцыповасці?» І чаму Мікола Лобан у той жа размове аб крытыцы з такой настойлівасцю адстойвае тое, у чым, здавалася б, няма патрэбы сумнявацца: «нам патрэбна «мыслящая» літаратура».

У гэтых выказваннях Вярцінскага і Лобана я адчуваю самую цесную ўзаемасувязь: удумлівы літаратар — удумліва-аналітычная літаратура — удумлівая і, значыць, прынцыповая крытыка.

Наша літаратурнае жыццё дае багата прыкладаў менавіта такой вось цеснай і плённай узаемасувязі. У нас ёсць сапраўдныя, таленавітыя пісьменнікі, якія ўдумліва і прынцыпова падыходзяць да з'яў жыцця. Іван Мележ, Іван Шамякін, Пілін Пестрак, Янка Брыль, Аляксей Кулакоўскі, Мікола Лобан, Васіль Быкаў... Гэта—не проста, як кажуць, дзяжурны пералік. Тут сфера складаных грамадскіх і чалавечых дачыненняў. Творы гэтых пісьменнікаў заўсёды прыцягвалі ўвагу чытачоў і грамадскасці. І трэба сказаць, што гэтыя творы нараджаліся пры самым непасрэдным удзеле нашай літаратурнай крытыкі. Крытыка ж дапамагла нам і глыбока зразумець іх сапраўднае ідэйна-мастацкае значэнне, іх ролю ў літаратурным працэсе...

Згаданыя артыкулы М. Лобана і А. Вярцінскага прывабілі мяне і шчырасцю, і гарачай улюбёнасцю ў літаратуру... Ёсць толькі адна прэтэнзія да А. Вярцінскага. «Не бяруся глыбока высвятляць пытанне»,—папярэджвае ў артыкуле аўтар. Але чаму ж? Гэтым якраз варта займацца асабліва настойліва. Заканчваючы свой артыкул, А. Вярцінскі прапануе паразважаць, ці можа быць крытыка патрабавальнай і прынцыповай, «калі для гэтага не будзе адпаведнай атмасферы, калі ўсе мы—паэты, празаікі, рэдактары—не будзем дастаткова прынцыповымі самі». Думка не новая. Гэтая, па сутнасці, прапісная ісціна выказана і ў артыкуле С. Андраюка: «Але каб нармальна развівацца, быць актыўнай і дзейснай, крытыка павінна ад літаратуры чакаць большага ўзаемаразумення». Як быццам крытыка не частка літаратуры! Вышэй у артыкуле С. Андраюка ёсць вытрыманыя ў такім жа духу словы аб неабходнасці паляпшэння «мікраклімату літаратурнага асяроддзя». Падобныя прыклады можна множыць. Але дзеля чаго тады, уласна, гарыць увесь сыр-бор? Няўжо толькі дзеля таго, каб канстатаваць праявы непрынцыповасці ў «мікраклімаце літаратурнага асяроддзя»?

А як хацелася б у артыкулах удзельнікаў дыскусіі, апрача справядліва прыведзеных фактаў і прыкладаў, знайсці і аналіз, роздум. Хацелася б даведацца, напрыклад, што думаюць А. Вярцінскі і С. Андраюк і іншыя ўдзельнікі гаворкі пра вытокі трывожных выпадкаў непатрабавальнасці, беспрынцыпнасці, аднабаковасці крытыкі. Беспрынцыпнасць, як і прыстасавальніцтва, былі ў літаратуры заўсёды. Гэта заўсёдная праблема. Але мы не можам лічыць, што нельга, немагчыма адолець гэтую праблему. Зразумела, вырашэнне яе не можа быць прасталінейнае.

Карэнні яе звязаны з тым, што В. Р. Бялінскі назваў «маральным поглядам на мастацтва». Тлумачачы сутнасць гэтага ўзнятага ім «глыбокага і важнага» пытання, вялікі крытык падкрэсліў: «Мастацтва — гэта ўзнаўленне рэчаіснасці; значыць яго задача не папраўляць і не прыхарошваць жыццё, а паказваць яго так, якое яно ёсць на самай справе».

Вядома, дамагчыся гэтага не проста. Маральныя адносіны да мастацтва звязаны, перш за ўсё, з прызнаннем разнастайнасці і паўнаты жыцця, з глыбокім асэнсаваннем яго дыялектыкі, пастаянным напружаннем душы і думкі, з непрыняццем коснасці і шаблону. «Жыццё намнога багацейшае на супярэчнасці, чым гэта часам нам уяўляецца», — пісаў У. І. Ленін А. М. Горкаму. Багацце супярэчнасцей, якое складае філасофскую сутнасць мастацтва, супрацьстаіць вузкасці і дагматызму. Нездарма, піша Бялінскі, «мастацтва здаўна наклікала на сябе нападкі і нянавісць маралістаў, гэтых вампіраў, якія мярцвяць жыццё холадам свайго дотыку і намагаюцца закаваць яго бясконцасць у цесныя рамкі і клетачкі сваіх **разважлівых**, а не **разумных** вызначэнняў». За многія гады выразнікі гэтай тэндэнцыі, якія прывыклі мераць «бясконцае панаванне духу... маленькім маштабам сваіх маральных палажэнняў», зрабілі прыкметную эвалюцыю — іх маралістыка стала больш гнуткай, тонкай, яна навучылася «ўзгадняць» свае дзеянні з запатрабаваннямі часу.

Сёння ў сістэме капіталістычных адносін «куплі-продажу» іх пошлая мараль, увасобленая ў розныя «ізмы», праяўляецца адкрыта і нахабна. У нашым грамадстве, якое сцвярджае прынцыпы ўсебаковага духоўнага развіцця асобы, пошламу, мяшчанскаму маралізаванню з першых жа дзён новага жыцця аб'яўлены бязлітасны бой. М. Горкі, А. Луначарскі, М. Кальцоў, І. Ільф і Я. Пятроў узначалілі гэтае змаганне за духоўнае раскрапаванне чалавека. Але пошласць — вораг трывушчы і шматаблічны. І яе не так лёгка выкараніць, яна глыбока сядзіць у душах некаторых людзей. Яна набывае вопыт, вынаходзіць найбольш надзейныя спосабы існавання. І менавіта там, дзе паслабляецца наш духоўны грамадскі кантроль, яна актывізуецца, спрабуючы набыць правы грамадзянства. Адзін з улюбёных і верных яе прыёмаў — прыстасаванне. І вось, глядзіш, яна зноў і зноў прабіваецца на паверх. Яна бярэ напракат і дарагую для грамадства ідэю і прапускае яе цераз вузенькі жалабок свайго светапогляду. І выходзіць з гэтага жалабка з аднаго боку як быццам бы тая ж ідэя, а з другога — нібыта і не яна: вельмі ўжо непрыглядная, касабокая... Пошласці непатрэбна ні ведаў, ні здольнасцей, ні перакананняў. Яна аперыруе высокімі словамі, ужываючы іх для сваіх дробных інтарэсаў. Яе духоўныя сабраты з'яўляюцца і на ніве крытыкі. Не, яны зусім не ваяўнічыя, гэтыя крытычныя «змагары». Гэта да іх касты належыць той абачлівы крытык, пра якога жартавалі, што, запаўняючы анкету, ён нават у графе «пол» напісаў: «няма». Гэта яны любяць расхвальваць «добрыя» намеры аўтара, калі няма чаго сказаць больш аб творы.

С. Андраюк піша, што «літаратура пасрэдная вельмі актыўная, яна адразу адклікаецца на запатрабаванні часу». Заўважана правільна. Але варта было б яшчэ дадаць, што гэтая «літаратура», адгукаючыся на сучаснасць, не аналізуе яе, а спекулюе на запатрабаваннях часу, збядняе іх сапраўдны сэнс і значэнне.

Менавіта маламастацкая, рамесніцкая літаратура стымулюе хваробы крытыкі. Са смуткам даводзіцца пры-

чалавек навукі, дзеяч культуры, урач, артыст, журналіст, пісьменнік і г. д. Зрэдку бярэцца яшчэ вясковец, бо ён жыве на ўлонні прыроды і яму, маўляў, таксама ў нейкай ступені даступны тонкія ды ўзвышаныя адчуванні і перажыванні. А вось рабочы чалавек пры такіх выпадках амаль зусім не прымаецца пад увагу, быццам яго і няма ў нашым грамадстве, быццам рабочаму чалавеку не ўласцівы высокія ды глыбокія думкі і імкненні, быццам ён не здольны на складаныя пачуцці і перажыванні, і таму ніякія драматычныя, трагічныя ці іншыя высокаінтэлектуальныя сітуацыі і немагчымы ў тых творах, дзе асноўнымі персанажамі выступаюць прадстаўнікі рабочага класа. Часам бывае і так, што творы на рабочую тэму нават і не разглядаюцца ў такім плане, а адразу сцвярджаецца, што такі твор і не можа быць сапраўды інтэлектуальным, а, значыць, і мастацкім.

Ці не з'яўляецца гэта вынікам таго, што мы ўсё яшчэ даволі мала ведаем і разумеем сучасны рабочы клас, яго імкненні, інтарэсы, законы яго развіцця? І яшчэ: ці не з'яўляецца гэта адной з прычын таго, што пісьменнікі пазбягаюць брацца за рабочую тэматыку?

Яшчэ адна заўвага. Чытаючы крытычныя артыкулы апошняга часу, вельмі ж кідаецца ў вочы нейкае няпісанае правіла некаторых аўтараў пазбягаць канкрэтных прыкладаў, калі гаворка заходзіць пра пэўныя адмоўныя з'явы ў развіцці літаратурнага працэсу. Гэта заўважаецца нават у вельмі цікавым і змястоўным артыкуле Віктара Каваленкі, змешчаным нядаўна ў часопісе «Полымя». «Сёння відаць,—піша В. Каваленка,—што творчасць некаторых пісьменнікаў сярэдняга ўзросту, якія гадоў дзесяць таму назад былі маладыя не толькі гадамі, але і маладыя пісьменнікі, цяпер страціла свой ранейшы ўзровень». Якое гэта пакаленне? Мабыць жа не маё, а тое, што ідзе па гадах за намі. Значыць, гэта Пташнікаў, Чыгрынаў, Сачанка, Барадулін, Вярцінскі, Сіпакоў, Гілевіч, Бураўкін, Грачанікаў? У іх творчых страт мы не бачым. Дык хто ж тады страціў? Чаму ён страціў, якіх каштоўнасцей пазбавіўся і што за гэты час набыў?

Паказ гэтага на прыкладах даў бы пэўную карысць. Аднак такіх прыкладаў у артыкуле няма.

Не вельмі багаты на факты і даволі грунтоўны артыкул Серафіма Андраюка «Пора возмужания», змешчаны ў дзесятым нумары часопіса «Неман».

Прамаўчаць, здыпламатнічаць пры ацэнцы адмоўнага ў літаратуры—гэта, шчыра кажучы, яшчэ хоць зразумець можна: не хочацца крыўдзіць бліжняга, браць на сябе лішнюю адказнасць. А вось калі нашы крытыкі маўчаць і тады, калі перад іх вачамі зусім станоўчыя з'явы, якія патрабуюць і ацэнкі, і падтрымкі, і пэўнай папулярызацыі,—гэтага зразумець нельга, тут проста ўжо не ведаеш, што сказаць.

Вось прыклад. У нас з'явіўся і ўжо нават, як кажуць, сфармаваўся вельмі цікавы, самабытны пісьменнік Іван Мяла. Ён надрукаваў у часопісе «Неман» некалькі раманаў (рэдакцыя «Немана» зрабіла вялікую справу, памогшы выявіцца такому пісьменніку), і гэта не абы якія раманы, а напісаныя з глыбокім веданнем жыцця, з добрым мастацкім густам. Некаторыя з гэтых раманаў выйшлі асобнымі кнігамі. А ў крытыцы пра іх амаль нічога няма, быццам такі пісьменнік і не існуе. Вельмі мала ўвагі звяртае наша крытыка і на творчасць Мікалая Кругавых, аўтара некалькіх кніг пра сучасную Савецкую Армію. І ўжо зусім бясспрэчна, што неабходна заўсёды праяўляць і належную ўвагу, і клопаты пра творчасць здольных маладых аўтараў. Вось нядаўна была надрукавана ў «Полымі» аповесць Віктара Карамазава «Пагоннік». Гэта, здаецца, першая яго аповесць, і яна, на мой погляд, у асноўным удалася аўтару. Наконт яе варта было б сказаць слова нашым крытыкам.

У часопісе «Маладосць» змешчана аповесць Міхася Вышынскага «На павароце». Гэта было ў пачатку года, але аўтарытэтнага слова крытыка пра гэты твор, здаецца, яшчэ не было. Недаравальна замоўчваецца творчасць такіх здольных маладых аўтараў, як Эрнест Ялугін, Аркадзь Савелічаў. Такія прыклады можна было б прадоўжыць.

Наконт таго, што мала піша наша крытыка пра сучасную паэзію, асабліва пра драматургію, пра літаратуру для дзяцей, часам гавораць і самі крытыкі. Вось у апошні час выступілі з новымі паэтычнымі творамі і цыкламі вершаў П. Броўка, М. Танк, А. Куляшоў, А. Пысін, Э. Агняцвет, А. Зарыцкі, М. Калачынскі, А. Русецкі, С. Грахоўскі, А. Звонак, К. Кірэенка, А. Лойка, Г. Бураўкін, Х. Мальцінскі, Н. Гілевіч, М. Аўрамчык, А. Вярцінскі, Е. Лось, Ю. Свірка, В. Зуёнак, П. Макаль, нямала маладых паэтаў, а думкі крытыкаў аб гэтых паэтычных здабытках таксама яшчэ няма. Здаецца, зусім замоўчана з'яўленне новага твора А. Якімовіча пра Кастуся Каліноўскага і некаторыя іншыя творы нашых дзіцячых пісьменнікаў.

Нарэшце, некалькі слоў пра дыскусію на старонках нашага штотыднёвіка. Я лічу, што пачалася яна даволі грунтоўна і пераканаўча глыбока прадуманым, шчырым маналогам Міколы Лобана, кваліфікаваным рэдакцыйным артыкулам і выступленнем Якава Герцовіча. Гэтымі трыма галасамі быў пададзены ў аснове правільны кліч, паказаны тыя пункціры, напрамкі, па якіх павінна развівацца дыскусія аб стане нашай сучаснай крытыкі.

Следам з'явіўся артыкул Серафіма Андраюка, які, пры ўсёй сваёй вагавітасці, адвёў гаворку трошкі ўбок, прыпомніўшы некаторыя грахі даўно мінулай дыскусіі. Потым пайшлі розныя артыкулы розных аўтараў, .старэйшых і маладзейшых: крытыкаў, літаратуразнаўцаў, паэтаў, празаікаў. Вельмі добра, што ў дыскусійнай гаворцы прымаюць удзел і чытачы, бібліятэчныя работнікі. І слова іхняе не лёгкаважкае, не дылетанцкае, а са свежымі і слушнымі думкамі, вывадамі, абагульненнямі.

Адчуваецца ў дыскусіі і некаторая зігзагаватасць, часам вырываюцца крыклівыя ноткі, часам не зусім аб'ектыўныя,—гэта, відаць, і непазбежна ў дыскусіі, аднак у цэлым трэба прызнаць, што гаворка на старонках «ЛіМа» вядзецца патрэбная і карысная. Яе трэба працягваць.

Калі ж яшчэ крыху прадоўжыць агляд матэрыялаў дыскусіі, то хацелася б адзначыць, што ў некаторых выступленнях крытыкаў, зноў жа, не хапае таго, пра што мы гаварылі вышэй: канкрэтных фактаў, доказаў, прыкладаў з літаратурных твораў, з творчага вопыту пісьменнікаў, асабліва, калі гэты вопыт не зусім удалы. Характэрна, што ў выступленнях пісьменнікаў у гэтай дыскусіі—А. Вярцінскага, В. Мысліўца, Хв. Жычкі,—магчыма ў чым-небудзь і спрэчных, намнога больш канкрэтнасці і адпаведнай аргументацыі.

Хацелася б падтрымаць выступленне ў дыскусіі драматурга А. Маўзона ў той яго частцы, дзе выказваецца справядлівы папрок крытыкам за тое, што яны да гэтага часу нібы і не заўважаюць твораў драматургіі, а калі і выступаюць часам з рэцэнзіямі, то толькі—на спектаклі. Сапраўды, сама п'еса і спектакль па гэтай п'есе—зусім не адно і тое ж, і падыход тут павінен быць не аднолькавы. У той жа час варта, як мне здаецца, унесці і некаторае ўдакладненне ў самую ацэнку поспехаў беларускай драматургіі за апошні перыяд, зробленую А. Маўзонам у сваім дыскусійным артыкуле. Так, поспехі ёсць, тут аўтар артыкула мае рацыю: новыя п'есы А. Макаёнка, А. Маўзона, А. Дзялендзіка, М. Матукоўскага сталі шырока вядомы беларускаму і не толькі беларускаму гледачу. Аднак трэба ўсё-такі прызнаць, што гэта рост пераважна колькасны, а не якасны. Усё ж такі ў нас да гэтага часу няма высокамастацкіх драматургічных твораў і спектакляў, якія праўдзіва, хвалююча і пераканальна паказвалі б вялікія працоўныя подзвігі савецкага народа, грандыёзныя, вядомыя на ўвесь свет камуністычныя пераўтварэнні ў нашым грамадстве. У гэтай справе вялікія абавязкі паўстаюць перад нашымі драматургамі і тэатрамі.

Дыскусія па пытаннях развіцця сучаснай літаратурнай крытыкі будзе, відаць, паспяхова весціся і далей на старонках «ЛіМа». Слушныя прапановы выказваюцца ўдзельнікамі дыскусіі аб тым, што мэтазгодна было б перанесці гэтую дыскусію ў чытацкія аўдыторыі: ва універсітэт, педінстытуты, у Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР. Дададзім ад сябе—і ў рабочыя аўдыторыі. Праблем у літаратурнай крытыкі нямала, і чым шырэй і глыбей будуць абмеркаваны гэтыя праблемы, тым больш будзе карысці для справы.

---

знаваць, што знешне наша крытыка ў значнай сваёй частцы неяк «залітаратурылася». Яе аналіз, яе абагульненні часам занадта спецыфічна-вузкія, мала звязаныя з рознабаковымі праяўленнямі часу. І ці не таму яна не рэагуе актыўна на літаратурнае прыстасавальніцтва?

Літаратурная крытыка існуе не сама па сабе, яна — від грамадскай дзейнасці. Прадметам крытыкі, паводле слоў крытыка Аляксандра Макарава, з'яўляецца «перш за ўсё — чалавек і яго грамадскае жыццё». Менавіта таму літаратурная крытыка абавязана праяўляць асаблівую нецярпімасць да спекулятыўнай бездухоўнасці. Актыўнае выкрыццё шэрасці — магутны сродак здаровага ўплыву на «чалавека і яго грамадскае жыццё».

Нядаўна ў «Литературной газете» з'явілася некалькі вострых фельетонаў Віктара Арлова, скіраваных супраць літаратурнай пошласці. Гэта добра, вядома. Але я спрабую сабе ўявіць з'яўленне падобнага фельетона ў нас, у Беларусі і, шчыра кажучы, не магу. У нас некаторым больш да спадобы тое, што называецца «станоўчай рэцэнзіяй... па дамоўленасці». Сёй-той з порсткіх літаратараў не саромеецца пазваніць у рэдакцыю і «заказаць» артыкул аб сабе або рэцэнзію на сваю кнігу.

Вось так пачувае сябе зараз пошласць. А калі трэба, яна становіцца і ваяўнічай. І нават спекулюе словамі пра «крытычную дубінку», «прадузятасць» і г. д. Сапраўдная размова пра крытыку ёй не патрэбна і невыгодна. Ёй патрэбны толькі пахвалы, на якія здатна, вядома, толькі гэткая ж беспрынцыпная, прыстасавальніцкая крытыка. Не буду галаслоўным. Шмат разоў і ў друку, і ў выступленнях чытачоў, пісьменнікаў гаварылася пра тое, што творы некаторых нашых празаікаў (напрыклад, М. Гроднева, Ул. Федасеенкі, М. Ваданосава) заслугоўваюць строгіх крытычных заўваг. Іхнія кнігі вызначаюцца нізкім узроўнем чалавеказнаўства, павярхоўнасцю, прыблізнасцю мастацкіх рашэнняў, спрошчаным падыходам да жыцця. І што ж? Гэтай слушнай крытыкі амаль не чутно з-за тых захвальных артыкулаў і рэцэнзій, у якіх неразборліва (адпаведна—некваліфікавана) выдаюцца высокія ацэнкі.

Вось прыклады. Рэцэнзент выдае кнізе наступныя атэстацыі: «Вобраз Крайко выпісаны ўдала... Пісьменнік намаляваў таксама цікавыя вобразы моладзі, пераканаўча паказаў будні партызанскага жыцця... У кнізе... ёсць **неблагія творы пра цікавых людзей**, якія паўстаюць перад намі са сваімі клопатамі, сваімі інтарэсамі. Гэта кніга знойдзе сабе дарогу да чытача». Адразу кідаецца ў вочы, як банальна, шаблонна, дэкларатыўна, нудна ўсё гэта выказана. Пра якую ж кнігу ідзе размова? Што гэта за шэдэўр, што не заслугоўвае **ніводнай** заўвагі? Аказваецца, рэцэнзент І. Дубкоў такім чынам атэстуе на старонках «Беларусі» (1971, № 10) кнігу М. Ваданосава «Пад чужым паролем».

Як блізнятка выглядае падобнай на гэту рэцэнзію «крытычны водгук» другога рэцэнзента (Г. Стрэшына) на другую кнігу — раман Ул. Федасеенкі «Віхры на скрыжаванні». Зноў жа — прымітыўны пераказ «зместу», перасыпаны такімі перламі: «Тут кожная дэталь, кожны штрых падкрэсліваюць яго (героя—**С. Б.**) высакароднасць, чысціню, сумленнасць. Добра, што аўтар не ідэалізуе сваіх герояў, не робіць іх хадульна-бясстрашнымі(!) ...Аўтар раскрывае даволі пераканаўча... Кніга Уладзіміра Федасеенкі—праўдзівы твор, яшчэ адна яскравая старонка...» («Беларусь», 1971, № 11).

Такія рэцэнзіі дэзарыентуюць чытача, псуюць густы, блытаюць уяўленні. Вось так прымітыўныя, рамесніцкія творы ўзводзяцца да ўзроўню сапраўднай літаратуры. І не дзе-небудзь, а на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў.

Так што гэтыя мае разважанні — не фантазія. Вось чытаем мы і ў артыкуле В. Мысліўца «Найпершы запавет» (29 кастрычніка): «Замінае ж, калі не больш, навукова-аб'ектыўнаму аналізу мастацкіх твораў сямейна-групавы падыход да з'яў літаратуры». Тут аўтар артыкула спасылаецца і на Бялінскага, згадвае яго словы аб «жорсткіх забаронцах», якія «апрача сваіх сачыненняў так бы ўсё і забаранілі гуртам...» і працягвае: «А колькі ў наш час такіх забаронцаў!». Хочацца ўсё ж запытацца ў В. Мысліўца: каму перашкодзілі ў нас «жорсткія забаронцы»? Чый «талент» быў загублены імі? І хто яны, нарэшце, гэтыя самыя «забаронцы»? Абвінавачванне, відаць, вельмі сур'ёзнае, каб быць галаслоўным. Але аўтару артыкула, мабыць, больш і не трэба. Галоўнае ў такіх выпадках — абвінаваціць (невядома ў чым) іншых. Галоўнае—як мага больш наступальнага шуму. А тым часам пад заслонай палемічнага туману робіцца спроба падмяніць адзіна правільную — ідэйна-эстэтычную — ацэнку твораў літаратуры неаб'ектыўнымі доказамі, а спасылкамі, напрыклад, на добрыя намеры аўтара.

Прасочым за ходам думкі ў артыкуле В. Мысліўца. З аднаго боку, аўтар папікае сучасную крытыку за асцярожнасць і скупасць, за тое, што яна мала гаворыць «пра светапогляд героя, пра глыбіню і шматфарбнасць успрымання ім навакольнага свету». «Без гэтага ж не з'яўляецца вобраз, няма яго цэльнасці!» А з другога боку, тут жа сцвярджае: «Канечне, крытыку можна і трэба лічыць маршчынкі на твары героя, памагаць чытачу ўдыхаць асалоду ад рыпучых веснічак, ад грымотнай аканіцы за сцяною. Без дэталек, кажуць, нельга. Але ж нам важней за ўсё на свеце сам чалавек, які ён ёсць».

Значыць, з аднаго боку, В. Мыслівец нібыта за глыбокі і шматгранны аналіз асобы героя, а, з другога, ён літасціва дазваляе крытыкам — як нечым неістотным займацца падлікам «маршчынак на твары героя», а заадно «ўдыхаць асалоду ад рыпучых веснічак...» Характэрна тут вось гэтае выслоўе: «Без дэталек, кажуць, нельга». Пакінем у баку сам тэрмін «дэталькі» — сведчанне павярхоўных, прымітыўных адносін да важных пытанняў мастацкасці. Звернемся да галоўнага ў гэтым выказванні — да імкнення парушыць адзінства аналізу літаратурнага твора. Не адкрыў Амерыкі В. Мыслівец, заявіўшы, што «нам важней за ўсё на свеце сам чалавек, які ён ёсць». Ісціна ўвогуле неаспрэчная. Але ж справа ў тым, што чалавека ў літаратуры можна паказаць толькі ў сістэме вобразаў і карцін жыцця, створаных з дапамогай мастацкіх сродкаў, а гэта немагчыма без саміх дэталяў. Само супрацьстаўленне чалавека і «дэталек», далікатна кажучы, не толькі наіўнае. Яно сведчыць аб неразуменні ідэйна-мастацкай сутнасці літаратуры.

Ці толькі неразумечне? Ці не вядзе гэта да звужэння аб'ёмнасці і глыбіні крытычнага аналізу, зніжэння ўзроўню эстэтычных патрабаванняў да літаратуры?

І тут мы зноў звернемся да разважанняў А. Вярцінскага аб прычынах недахопу прынцыповасці ў нашым літаратурным асяроддзі. «Ці вядомы вірус, які з'яўляецца ўзбуджальнікам хваробы, — пытаецца паэт, — а калі вядомы, то якімі сродкамі трэба з ім змагацца?» Вірус вядомы. Яму сотні гадоў. І імя яму ўсё тое ж — рамесніцтва, халтура, за што б сябе яны ні выдавалі.

Думаю, што з гэтым вірусам даводзілася сутыкацца Вярцінскаму. Але вось рэцэпт, выпісаны ім для барацьбы з вірусам уяўляецца мне слабаватым. Заклікамі да самаўдасканалення не паможаш. Нездарма ж С. Андраюк піша, што пасрэдная літаратура «ніколі не згодзіцца на належнае ёй месца. Не. Яна любымі шляхамі імкнецца пацясніць, а то і выцесніць літаратуру сапраўдную». І з ім нельга не пагадзіцца. Пра гэта, відаць, недарэмна гавораць удзельнікі дыскусіі па праблемах крытыкі.

І вось таму аднымі заклікамі праяўляць прынцыповасць справе не дапаможаш. Трэба абапірацца на тую магутную сілу, якая называецца грамадскай думкай. Формы гэтай барацьбы павінны і могуць быць разнастайныя. Галоўны ж яе лозунг — у закліку У. І. Леніна «не замоўчваць слабасцей свайго руху, а адкрыта крытыкаваць іх, каб хутчэй і больш радыкальна ад іх пазбавіцца». Высокі прыклад прынцыповага крытычнага падыходу да недахопаў паказвае нам наша Камуністычная партыя. У справаздачным дакладзе Л. І. Брэжнева на XXIV з'ездзе КПСС ясна было сказана аб праліках мастацкай літаратуры і крытыкі. Гэта — сведчанне не толькі партыйных клопатаў аб развіцці літаратуры, але і надзейны арыенцір у нашай барацьбе за грамадскую актыўнасць і высокую мастацкасць сапраўднай літаратуры. І тут зарука далейшага надзейнага, творчага ўмацавання гэтай узаемасувязі: удумлівы літаратар — удумліва-аналітычная, высокамастацкая літаратура — партыйная і, значыць, глыбока-аргументаваная, прынцыповая крытыка.

# ЖЫВАТВОРНАСЦЬ ТРАДЫЦЫІ

У КАНЦЫ 1871 года ў «С.-Петербургских ведомостях» Уладзімір Васілевіч Стасаў пісаў: «Самая вялікая мастацкая навіна ў цяперашні час у Пецярбурзе — **перадзвіжная выстаўка...** Пасля Пецярбурга перадзвіжная выстаўка хутка з'явіцца ў Маскве, Кіеве, Адэсе і іншых гарадах, абуджаючы, канечне, паўсюдна аднолькавую ўдзячнасць і спачуванне... Перад намі цяпер іншая парода, якая жыве і мысліць, кінула ў бок бразготкі і бескарысныя забаўкі мастацтвам, якая аглядае тое, што вакол яе стаіць і адбываецца, якая скіравала нарэшце сур'ёзныя свае вочы ў гісторыю, каб адтуль чэрпаць не адно толькі палітычнае шалупінне, але глыбокія рысы даўнейшага жыцця, або якая малюе на сваім палатне тыя характары, тыпы і падзеі штодзённага жыцця, якія першы навучыў бачыць і ствараць Гоголь... Яны сказалі сабе: толькі той мастак, толькі той варты быць членам нашага новага брацтва, хто працуе, хто пастаянна працуе, хто не хоча знаць, што такое адпачынак, праклятая лянота і карты, хто ўсялякі дзень прачынаецца з думкаю аб рабоце, хто ўсялякі дзень рухае наперад і разуменне і ўмельства сваё...»

Так, стагоддзе прайшло, а створанае перадзвіжнікамі — насуперак і акадэмічнай руціне, і рафінаванаму эстэцтву — служыла і служыць народу як сапраўды народнае, жыццёва праўдзівае мастацтва.

Савецкае выяўленчае мастацтва, у якім усталяваўся **якасна новы рэалізм — сацыялістычны,** паспяхова развівае важнейшую традыцыю класічнага мастацтва, у тым ліку мастацтва перадзвіжнікаў, — традыцыю выяўлення прагрэсіўнага светапогляду. І калі мы гаворым пра маральнае выхаванне нашым савецкім мастацтвам новага чалавека, дык глыбока разумеем: жыватворнасць традыцыі перадзвіжнікаў для нас — перш за ўсё ў маральным пафасе іх творчасці. Не так у іх увазе да жанру, не столькі ў іх выкрывальным пафасе, як у іх пошуках адказу на пытанні аб грамадскім абавязку чалавека, аб месцы чалавека ў свеце, аб сутнасці ягонага чалавечага сумлення. Тут значэнне вопыту перадзвіжнікаў для сучаснага мастацтва не меншае, чым значэнне вопыту Талстога і Дастаеўскага, Някрасава і Чэхава...

Увесну 1917 года Мікалай Міканоравіч Дубаўской гаварыў: «...той здаровы пачатак, які жыў у перадзвіжніцтве, памерці не можа. Ён адродзіцца, ён патрэбен будзе масам, якія абудзіліся, і гэтая праўда жыцця, рэалізм, ідэйнасць — усё спатрэбіцца новаму грамадству.

...І заўважце: нас будуць некаторыя лаяць усяляк, з пагардаю вымаўляць нашае імя, але, не заўважаючы таго, у новых формах, у новым рэалізме будуць прапаведаваць тое, што складала сумленную сутнасць перадзвіжніцтва: яго жыццёвую праўду і служэнне народу. Хіба мы сваім мастацтвам не вызвалялі чалавечае пачуццё, не вялі да свабоды духу і заваявання чалавечых правоў? Без гэтага мастацтва было б пустой забаўкай і ім не варта было б займацца».

Менавіта якраз пагэтаму, шукаючы новыя спосабы рашэння задач, якія ставіць перад мастацтвам новае жыццё, немагчыма прайсці міма рэалістычнага мастацтва перадзвіжнікаў, ролю і значэнне якіх сённяшняе савецкае мастацтвазнаўства разглядае, не змяншаючы і не вульгарызуючы.

Досыць доўга на перадзвіжнікаў глядзелі як на жанрыстаў, а не як на мысліцеляў. Жанр не мае сілы ставіць і вырашаць этычныя праблемы ў такім плане, як іх ставілі перад сабой і перад гледачом у сваіх творах Іван Крамской і Мікалай Ге, Ілья Рэпін і Васілій Сурыкаў. Вялікія этычныя праблемы дабра і зла ў лепшых творах перадзвіжнікаў вырашаліся ў філасофскім, а не ў жанравым аспекце.

Жыватворнасць традыцый перадзвіжнікаў для сучаснасці і ў тым, што яны навучыліся разумець гісторыю, зыходзячы з сучаснасці, а сучаснасць трактаваць гістарычна. Буйнейшы савецкі мастацтвазнаўца Аляксей Аляксандравіч Фёдараў-Давыдаў пераканаўча паказвае гэта на многіх прыкладах, у тым ліку на такіх, як «Запарожцы» або «Не чакалі» Рэпіна, «Баярыня Марозава» Сурыкава або «Хрыстос у пустыні» Крамскога, «Пётр І і царэвіч Аляксей» або «Што ёсць ісціна?» Ге.

Мы ведаем, што творчасць перадзвіжнікаў высока цаніў Уладзімір Ільіч Ленін. Мы ведаем таксама, што на рубяжы XIX і XX стагоддзяў перадзвіжніцтва становіцца з'яваю супярэчлівай. І, трэба сказаць, гэтую супярэчлівасць адчувала тагачасная бальшавіцкая прэса. Газета «Праўда» ў перадрэвалюцыйныя гады падтрымлівала лепшае ў развіцці перадзвіжніцкіх традыцый. І спад цікавасці «Праўды» ў пэўны перыяд да перадзвіжніцтва тлумачыцца якраз тым, што ў ім заўважаўся адыход ад важнейшых жыццёвых праблем, здрабненне сюжэтаў, бытапісальніцтва, прытупленне сацыяльна-палітычнай накіраванасці творчасці.

Перадзвіжніцтва, як і ўсякая з'ява ў гісторыі мастацтва, перажыло сваё зараджэнне, свой росквіт і свой спад. Нам дарагія жыватворныя традыцыі яго росквіту. А росквіт перадзвіжніцтва — доказ таго, што абнаўленне эстэтычных ідэалаў і структурных сістэм мастацтва — ёсць аб'ектыўная патрэбнасць, якая фармуецца сацыяльным жыццём і рэалізуецца актыўнасцю талентаў.

Зразумела, сацыялістычны рэалізм ёсць мастацкі **метад.** А гэта азначае перш за ўсё, што ён катэгорыя **светапогляда-ва-змястоўная.** Зразумела таксама, што выкрышталізоўванне сацыялістычнага рэалізму не можа не весці да абнаўлення эстэтычных ідэалаў і структурных сістэм мастацтва. Гэты **працэс** — дзёрзкія пошукі новых выяўленчых магчымасцей, якія закладзены ў самой прыродзе мастацтва. І жывы дух перадзвіжніцтва, у межах якога — такія разнастайныя па творчых почырках індывідуальнасці, пратэстуе супраць таго, каб шукаць характэрныя прыкметы рэалізму або мадэрнізму пераважна ў аспекце формы, у сістэме выяўленчых сродкаў. Тым не менш на практыцы нярэдка здараецца, што нават цалкам рэалістычнае, але арыгінальнае і нязвыклае мастацкае рашэнне падазраваецца ледзь не як мадэрнісцкае.

Марксісцка - ленінская эстэтыка выразна адмяжоўвае мадэрнізм ад рэалізму, нягледзячы на наяўнасць паміж імі сумежных адгалінаванняў. Яна вучыць бачыць у рэалістычным кірунку адхіленні і тэндэнцыі мадэрнісцкага ладу гэтак жа, як у рэчышчы мадэрнізму парасткі мастацтва немадэрнісцкага характару. Даўно пераадолены дагматычны пагляд на рэалізм, згодна з якім пэўныя стылявыя пошукі перадзвіжнікаў на пэўным этапе іх гістарычнага развіцця аб'яўляліся ледзь не адзінай магчымай «меркаю рэалізму» і для мастакоў сучаснасці.

У якасна новых умовах, на аснове якасна новага творчага метаду савецкае мастацтва настолькі ж актыўна, як мастацтва перадзвіжнікаў у пару іх росквіту, супрацьстаіць пошласці натуралізму — сузіральнасці і раўнадушнасці, якія займаюць **позу** аб'ектыўнасці, за якой — няма высакароднай **тэндэнцыі,** а тая ж самая безаблічнасць, што і за мадэрнізмам, гэтым «натуралізмам навыварат».

Савецкае мастацтва выпрацавала пераканане: сіла мастацтва — у яго прагрэсіўнай тэндэнцыйнасці. Вопыт перадзвіжнікаў не прайшоў марна. Жыватворныя традыцыі перадзвіжнікаў служаць высакародным мэтам мастацтва сацыялістычнага рэалізму.

**Уладзімір БОЙКА.**



В. Сурыкаў. Старая ва ўзорчастай хустцы. Эцюд да карціны «Баярыня Марозава». Масла. Дзяржаўны мастацкі музей БССР.



І. Крамской. Партрэт агранома М. В'юннікава. Масла. Дзяржаўны мастацкі музей БССР.

## НЕВЫЧАРПАЛЬНАЯ КРЫНІЦА ЧЫСЦІНІ

Мастакі, якія ўвайшлі ў Таварыства перадзвіжных мастацкіх выставак, зрабілі рэвалюцыйны пераварот у практыцы выяўленчага мастацтва Расіі. У барацьбе з руцінаю, якая ўсталявалася ў поглядах так званых заканадаўцаў мастацтва ў сценах імператарскай Акадэміі мастацтваў, перадзвіжнікі былі сапраўднымі наватарамі, барацьбітамі за жыццёва праўдзівую творчасць, якая абапіраецца на жыццё народа, у народзе чэрпае сілы і натхненне.

Тонкая назіральнасць, грамадска-палітычная завостранасць — такія характэрныя асаблівасці мастацтва перадзвіжнікаў, што пасуюць і нам, нашчадкам.

Шэдэўры нацыянальнага рускага мастацтва, створаныя Крамскім, Пяровым, Рэпіным, Сурыкавым, Урубелем, Сяровым, Левітанам, сталі шэдэўрамі сусветнага мастацтва. Прыцягальная сіла іх уздзеяння—у **арганічнасці сплаву** высокага прафесійнага майстэрства і глыбокай адданасці радзіме.

Спадчына перадзвіжнікаў — невычарпальная крыніца чысціні і веры ў перамогу высокага, патрыятычнага, рэалістычнага мастацтва.

**Н. ВОРАНАЎ,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.**

## У ЧЫМ ЖА ІХ СІЛА?

Гэта пытанне не перастае паўставаць перада мною з часу першага спаткання з творамі перадзвіжнікаў у Траццякоўцы ў 1922 годзе. Творы гэтыя ўздзейнічалі на сучаснікаў і ўздзейнічаюць на нашчадкаў. Быццам і тэматыка аджыла век... Але—пачуцці!.. На палотнах перадзвіжнікаў адчуваеш перажыванні кожнага з персанажаў, моцнае і слабое ў характары кожнага з іх. Падуладны мастацкай стыхіі перадзвіжнікаў, ты ўслед за імі радуешся, смуткуеш, ненавідзіш.

Так, тое, што глядач перажывае ля твора, перш за ўсё глыбока перажыта самім мастаком!..

Сурыкаў, Крамской, Рэпін, Мясаедаў, Касаткін... Кожны твор — ад неадольнай прагі выказаць запаветнае, вынашанае ў душы, значнае для многіх і многіх. Для народа!..

І яшчэ іх сіла—у культуры творчасці. У культуры ўвасаблення задумы. У культуры самога жывапісу.

Ва ўроках перадзвіжнікаў — шмат павучальнага для мастацтва нашага часу.

**Анатоль ТЫЧЫНА.**

# ПЕРАДЗВІЖНІКІ І БЕЛАРУСЬ

Па сутнасці да сярэдзіны 1890-х гадоў перадзвіжнікі былі адзіным мастацкім калектывам, які на справе імкнуўся далучыць да мастацтва народныя масы. І, зразумела, гэты рух не мог не паўплываць на творчасць і светапогляд мастакоў тагачаснай Беларусі.

Пэўнае ажыўленне выставачнай дзейнасці на Беларусі якраз і ёсць адно са сведчанняў уплыву руху перадзвіжнікаў.

У дзевяностыя гады ў Мінску, Віцебску і некаторых іншых гарадах Беларусі наладжваліся мастацкія выстаўкі, на якіх экспанаваліся творы мясцовых мастакоў. Пераважна выстаўкі гэтыя наладжваліся з дабрачыннымі мэтамі. Так, напрыклад, у 1899 г. у Віцебску мастацкая выстаўка была наладжана са зборам сродкаў у карысць мясцовага Таварыства папячэння аб дзецях. Былі паказаны творы бацькі і сына Клевераў, Каля, Крачкоўскага, Сакалова, Багалюбава, а таксама Ю. Пэна, які пасля Кастрычніка стаў адным з першых заслужаных мастакоў Савецкай Беларусі.

Вялікае значэнне для развіцця на Беларусі цікавасці да мастацтва сярод публікі і для вызначэння кірунку творчых пошукаў мясцовых мастакоў мела выстаўка Таварыства перадзвіжных выставак, якая адбылася ў Мінску ў 1899 годзе. Творы смелай думкі, карціны сацыяльна вострага зместу ўсхвалявалі мясцовую інтэлігенцыю, як пісаў мінскі рэцэнзент выстаўкі С. Мглінскі, «не одной верностью, фотографичностью изображения». Сярод паказаных на гэтай выстаўцы твораў былі «Сыны Волгі» У. Макоўскага, «У калідоры акругавата суда» М. Касаткіна, «Пасля пагрому» А. Архіпава, рэпінскае палатно «Сум», у якім створаны вобраз рэвалюцыянеркі-вязня.

Выстаўкі мясцовых мастакоў у Мінску ў 1902, 1904, 1907, 1908 гадах ужо самім фактам свайго існавання сведчылі аб ажыўленні мастацкага жыцця Беларусі. А ў 1911 годзе ў Мінску экспанавалася, бадай, самая вялікая з дарэвалюцыйных выставак на Беларусі. Яна была разгорнута ў памяшканні польскага культурнага таварыства «Агніска» і аб'ядноўвала мастацкія сілы Беларусі і Літвы. У ёй удзельнічалі мастакі Я. Кругер, Л. Альпяровіч, Ф. Рушчыц, М. Чурлёніс. Гэта была выстаўка ў поўным сэнсе слова прафесійная.

Некаторыя з мастакоў Беларусі, якія імкнуліся ўслед за перадзвіжнікамі ўстанавіць цесны кантакт паміж мастацтвам і гледачамі, былі вучнямі перадзвіжнікаў. І. Рэпін, С. Каровін, І. Пранішнікаў, І. Левітан, У. Макоўскі, І. Шышкін, А. Куінджы спрыялі набыццю прафесійнага майстэрства талентам з Беларусі, якія вучыліся ў Пецярбурзе і Маскве.

Некаторыя перадзвіжнікі эпізадычна працавалі на Беларусі. А І. Рэпін пэўны час жыў кожнае лета на Беларусі—у сваім маёнтку пад Віцебскам. Ёсць нават паняцце такое — «здраўнеўскі перыяд» творчасці Рэпіна.

Пад уплывам свежых парасткаў рускага дэмакратычнага выяўленчага мастацтва развіваліся на Беларусі таленты Ю. Пэна, Я. Кругера, Л. Альпяровіча, Ф. Рушчыца.

Трохі пазней у асяроддзі перадзвіжнікаў сфарміраваўся талент пейзажыста В. Бялыніцкага-Бірулі.

Не перарываецца лепшая традыцыя перадзвіжнікаў і ў сучасным беларускім савецкім выяўленчым мастацтве.

**А. БЕЛЬСКІ.**

Віцебск.

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ЁН УМЕЎ СМЯЯЦЦА

Іх, вожыкаўскіх кніжак гумару і сатыры, выходзіць за год да крыўднага мала: толькі шэсць... І таму чытач, часам абыякавы да іншых зборнікаў, не праміне набыць у кіёску чарговую кніжку з «Бібліятэкі «Вожыка», у якой звычайна прысутнічае і дасціпны жарт, і смешная павучальная гісторыя, і з'едлівая ўсмешка... А смяяцца мы ўсе любім. Любім, як любіў і ён, Сымон Блатун.

«Сымон Блатун. Задумлівы. Усмешлівы. Спагадлівы. Ён любіў трапнае слова, вясёлы жарт, быў майстрам нечаканых экспромтаў, каламбураў. Невыпадкова ён так актыўна супрацоўнічаў у «Вожыку». Да гэтых сардэчных, авеяных журбою слоў Рыгора Барадуліна, якія ён напісаў у прадмове да кніжкі «Калючая шаткаванка» Сымона Блатуна, далучыцца кожны з нас, хто хоць трохі ведаў аўтара. Ён быў надзвычай дасціпным чалавекам, умеў жартаваць — не абразліва, а лёгка, неяк асабліва тонка і спагадліва. Пажартуе, нібы саромеючыся, а потым на твары ў яго доўга не гасне, блукае гэтая ласкавая ўсмешка, вясёлая, іранічная, хаваючыся ў куточках вуснаў, ззяючы ў вачах. Сапраўды, «так смяюцца толькі сумленныя, чыстыя сэрцам людзі». Такім паўстае перад намі Сымон Блатун з гумарэсак, вершаў і мініяцюр, якія сабраны ў пятай вожыкаўскай кніжцы.

Тое, што для некаторых абывацеляў складае сэнс жыцця, што прымушае іх пакутліва перажываць і вохкаць, для Сымона Блатуна — не мела аніякага значэння... «Службовую лесвіцу» ён разумеў па-свойму. Па-чалавечы мудра і проста. Вось як ён іранічна, жартаўліва-цёпла пісаў пра свае «чыны»:

Я не маю дачынення  
Аніколькі да чыноў.  
Ды паверце, тым не меней  
Я ў «чынах» расці пайшоў.  
Быў спачатку Халасцяк —  
Чын не важны дужа,  
Ды няўмольны ход  
жыцця —  
Я зрабіўся Мужам.  
Нарадзіўся потым сын,  
Хлопчык вельмі хвацкі, —  
Яшчэ больш высокі чын  
У мяне стаў — Бацька.

Непрымірымасць Сымона Блатуна да ўсяго ненатуральнага, адмоўнага ў чалавеку, да заганнага ў яго характары, у яго паводзінах — таксама яскрава гаворыць нам аб высакародным вобразе паэта.

Па-майстэрску зроблены многія сатырычныя мініяцюры. У іх здзіўляе дакладнасць думкі, лаканічнасць радка і пільная назіральнасць. Хто не пазнае, напрыклад, у гэтай карацельцы («Запаленая свечка») чалавека-баязліўца:

Такі характар мае  
свечка:  
Хто толькі чхне —  
ўжо трапеча.

А як з'едліва гаворыцца ў карацельцы «Зуб мудрасці» пра звычайнага выскачку:

На свет прарэзаўся  
Зуб хітрацом:  
Жавалі іншыя,  
а ён — стаў Мудрацом.

Чытаеш гэтыя карацелькі і ловіш сябе на думцы, што і сам назіраў неаднаразова камічныя сітуацыі, так трапна перакладзеныя паэтам на мову мікрабайкі:

Калі Лісу за хвост  
спаймалі, —  
З яе смяяцца  
й куры сталі.  
(«Курыны смех»).

Тэматыка вершаваных мініяцюр Сымона Блатуна — разнастайная. Досыць шырокі іх грамадзянскі дыяпазон. Ён умеў правільна вызначыць аб'ект сатыры, а гэта — немалаважна, бо, як вобразна пісаў у адным з пасляваенных артыкулаў Кандрат Крапіва, аб'ект сатыры «падобны да звона: калі па вялікім звоне ўдарыць нават маленькім малаточкам, дык гук будзе вялікі, а па маленькім звоне хоць бі вялікім молатам, гуку вялікага не будзе».

Значную частку сатырычных твораў паэта складаюць каламбуры і афарызмы. Гэтым малым формам уласцівы і сатырычная з'едлівасць, і сапраўдная дасціпнасць. У іх удала абыгрываецца шматзначнасць асобных слоў, добра выкарыстоўваецца эфект нечаканасці.

Для таго, каб ацаніць вартасць каламбураў Сымона Блатуна, дастаткова прывесці хоць бы такі:

У цэнтры добра пасаваў  
А ля варот ён  
пасаваў.  
(«Пасіўны футбаліст»).

А з якім задавальненнем чытаеш афарызмы Сымона Блатуна! Гэты залаты россып дасціпнаў захапляе нечаканым сутыкненнем падобных, здавалася б, але супрацьлеглых на сваім значэнні слоў, паняццяў, пераасэнсаваннем вядомых ідыём, выразаў. Менавіта дзякуючы такому прыёму аўтар дабіваецца найбольшай сатырычнай завостранасці думкі, выказанай ў вельмі лаканічнай форме («Пачынаючы кампазітар напісаў ужо сваю лебядзіную песню»; «Ён меў адзіную думку: ніколі не выказваць уласнай думкі»; «Нуль заўсёды трымаецца важна, калі ён стаіць побач з палачкай»; «Пажарнікі прыехалі позна, але ад'язджалі з помпаю» і г. д.).

Думаецца, што чытач з вялікім задавальненнем пазнаёміцца з гумарам і сатырай Сымона Блатуна, для якога заўсёды было смяхотным усё тое, што з маральнай заганай, што чалавечна непаўнацэннае. Для яго смех быў элементам ацэнкі людзей і рэчаў у паўсядзённай будзённасці. Падводзячы рахунак зробленаму Сымонам Блатуном у «гарачым сатырычным цэху», мы можам сцвярджаць: несумненна, ён мог бы зрабіць яшчэ больш.

**Яўген КАРШУКОЎ.**

Сымон Блатун. «Калючая шаткаванка», «Бібліятэка «Вожыка». Мінск, 1971.

---

# СЛОВЫ ЗМЕСТУ АСАБЛІВАГА

Нядаўна беларуская лексікаграфія папоўнілася яшчэ адной працай — выйшаў з друку падрыхтаваны Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі».

Новы тэрміналагічны слоўнік выкліканы патрэбаю адлюстраваць сучасны ўзровень развіцця грамадазнаўчых навук і задачай уніфікаваць дублетныя тэрміны ў адпаведнасці з дзейнымі нормамі беларускай літаратурнай мовы. У ім падаецца тэрміналогія трох галін грамадазнаўства — філасофіі, палітычнай эканоміі і навуковага камунізма — усяго да 17 тысяч тэрмінаў.

Перагортваючы слоўнік, мы бачым, што яго складальнікі — М. Бірыла, Л. Ванковіч, А. Жураўскі, М. Круkоўскі, А. Кісялеўскі, Н. Колас, В. Лемцюгова, А. Сакалоўская, М. Суднік, А. Яновіч — шмат папрацавалі, каб сабраць, сістэматызаваць і ўстанавіць сэнсавыя адпаведнасці рускіх і беларускіх тэрмінаў.

Прыемна, што ў слоўніку знайшла свой адбітак праца вучоных-мовазнаўцаў, пісьменнікаў, практыка Беларускай Савецкай Энцыклапедыі ва ўнармаванні літаратурнай мовы, упарадкаванні яе тэрміналогіі.

У слоўніку — натуральныя формы слоў, якія не парушаюць словатворчай прыроды беларускай мовы. Так, для перадачы рускіх дзеепрыметнікаў цяперашняга часу з суфіксамі -ущ-, -ющ-, -ем-, -им-, -ом- выкарыстаны прыметнікі з суфіксамі -н-, -льн-, -ч- і дзеепрыметнікі з суфіксам -н-: **бяздзейны капітал** (бездействующий капитал), **супастаўныя цэны** (сопоставимые цены), **непазнавальная рэч** (непознаваемая вещь), **успрымальны свет** (воспринимаемый мир), **накіроўчая роля партыі** (руководящая роль партии), **абвінавачаны** (абвиняемый), **абкладны даход** (облагаемый доход), **адчужальная прыватная ўласнасць** (отчуждаемая частная собственность), **спажывальная частка нацыянальнага фонду** (потребляемая часть национального фонда).

Шкада, што такая праца не даведзена да канца і ў даведнік трапілі неўнармаваныя формы, як **рашаючы голас, дзеючае заканадаўства, накапляемая частка даходу, абагульняючая абстракцыя, абумоўліваючае апасродкаванне** і інш. Калі прыслухацца да жывой мовы, то і ў гэтых выпадках можна знайсці натуральныя формы: **вырашальны голас, дзейнае заканадаўства, накапляльная частка даходу, абагульняльная абстракцыя, абумоўнае апасродкаванне.**

Зваротныя дзеепрыметнікі, як вядома, у беларускай мове зусім не ўжываюцца. Слоўнік паспяхова абышоўся без гэтых формаў. Функцыю рускіх зваротных дзеепрыметнікаў бяруць на сябе ў беларускай мове прыметнікі з суфіксамі -льн- (-альн-), -ом-. У слоўніку падаюцца: **узаемна пагашальныя плацяжы** (взаимно погащающиеся платежи), **рухомая матэрыя** (движущаяся материя), **абарачальныя грошы** (обращающиеся деньги), **звыродны капіталізм** (вырождающийся капитализм) і іншыя.

У беларускай мове запазычаныя дзеясловы і ўтвораныя ад іх прыметнікі і назоўнікі ўжываюцца часцей за ўсё без фарманта -ір-, з суфіксам -ва-. Гэту асаблівасць беларускай літаратурнай мовы занатоўвае і новы тэрміналагічны слоўнік: **авансаваць, авансаванне, авансаваны капітал, байкатаваць, групоўка, дэлегаваць, імпартаваць, імпартаванне, фундаваны доўг, гарантаваная пазыка, кваліфікаваная праца, каланізаваная тэрыторыя** і інш.

Адно з асноўных патрабаванняў да слова-тэрміна — дакладна перадаваць паняцце. На наш погляд, такія словы ў слоўніку, як — даверчая грамата, дарчая грамата, імперыялістычнае ярмо, ідэалістычны кірунак у сацыялогіі, акупнасць капітальных затрат, якасная акрэсленасць, каланіяльныя асновы капіталізму, звычаёвае права, навакольнае асяроддзе, дваістая прырода нацыянальнай буржуазіі, гранічная вартасць, мяжа працягласці рабочага дня, фармальна-лагічная высnова, рэвалюцыйны выбух, сацыяльныя вярхі, дзяржава-ліхвяр, класавая варожасць, эканамічнае заняволенне, установачная ўлада, патрэбы грамадства, важкая матэрыя, — не парушаючы прыроды роднай мовы, дакладна перадаюць паняцце, сэнсава адпавядаюць рускім тэрмінам верительная грамота, дарственная грамота, империалистическое иго, идеалистическое направление в социологии, окупаемость капитальных затрат, качественная определенность, колониальные устои капитализма, обычное право, окружающая среда, двойственная природа национальной буржуазии, предельная стоимость, предел продолжительности рабочего дня, формально-логическое умозаключение, революционный взрыв, социальная верхушка, государство-ростовщик, классовая рознь, экономическое порабощение, учредительная власть, потребности общества, весомая материя.

Для абазначэння наменклатурных паняццяў у слоўніку выкарыстоўваюцца пашыраныя ў розных стылях літаратурнай мовы ўтварэнні з суфіксам -ц-, -ўц-, -нік-, якім у рускай мове адпавядаюць назоўнікі з суфіксам -тель-: **прадпрыемец** (предприниматель), **абвінаваўца** (обвинитель), **заняволънік** (поработитель), **авансадаўца** (авансодатель).

Складальнікі выкарысталі ў патрэбных выпадках і такі спосаб утварэння тэрмінаў, як тэрмінаванне словазлучэння: супольнае жыццё (общежитие), іск у адказ (ответный иск), ахова здароўя (здравоохранение). Каб не парушаць прыроды роднай мовы, да склонава-прыназоўнікавай формы рускай мовы ў слоўніку падаюцца адпаведныя беларускія прыметнікі. Параўн.: работа на дому (руск.) і надомная праца.

У тэрміналогіі, як ні ў якой іншай галіне лексікі, шмат запазычанняў. Гэта пацвярджае і слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

Але і тут павінна захоўвацца разумная мяжа. Якуб Колас папярэджваў: «...трэба смялей ствараць новыя словы і ў патрэбных выпадках звяртацца да запазычання. Але мы маем вялікі моўны запас, які незаслужана забыты намі, літаратарамі, і з поспехам ужываецца ў народзе. Значыць, перад увядзеннем кожнага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фалькларныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і, мусіць, забыта ці ўжываецца і невядома нам».

Гэтая мудрая перасцярога — не захапляцца запазычаннем слоў — мае дачыненне не толькі да літаратараў, а і да лінгвістаў і іншых вучоных, хто стварае тэрміны. У тэрміналагічным слоўніку, пра які тут ідзе гаворка, можна было смела абысціся без некаторых запазычаных слоў, як, скажам: батрак, батрацкі, батрацтва, збытак (капіталу), учот вэксаляў, учотны банк (вэксаль, працэнт), бо ў нашай мове ёсць словы парабак, парабкоўскі, парабкоўства, лішак (капіталу), улік вэксаляў, уліковы працэнт і г. д.

Слоўнік надта непаслядоўны ў выкарыстанні слоў **улік, уліковы** і **ўчот, учотны.** Тут мы знойдзем 41 тэрміналагічнае спалучэнне са словамі **улік, уліковы** і раптам... адно са словам учот (учот вэксаляў) і 4 са словам учотны (учотная стаўка, учотны банк, учотны вэксаль, учотны працэнт). На наш погляд, ва ўсіх гэтых словазлучэннях-тэрмінах заканамерныя толькі словы **улік** і **ўліковы.** Бо чым растлумачыць такі разнабой: уліковы апарат і учотны банк, улік гатовай прадукцыі і ўчот вэксаляў.

Іншае з перакладам слова **состав.** Тут абгрунтавана выкарыстаны два словы: **склад** — класавы склад насельніцтва, нацыянальны і сацыяльны склад і **састаў** — аб'ектыўны састаў злачынства, састаў капіталу.

Мусіць, маюць права на тэрміналагічнае выкарыстанне і словы супольнасць, супольніцкі, цывільнае насельніцтва, а не толькі саюз, саюзніцкі, грамадзянскае насельніцтва. У ролі тэрміна, як справядліва зазначыў у артыкуле «О некоторых явлениях словообразования в русской технической терминологии» вядомы рускі мовазнаўца Р. Вінакур, можа выступаць любое слова; тэрміны — не асобыя, а звычайныя словы, ужытыя толькі ў асобнай функцыі. Слоўнік правільна зрабіў, замацаваўшы ў функцыі рускага **предел** беларускае слова **мяжа** (мяжа вартасці), а **гранічны** як адпаведнік рускаму **предельный.** Не парушаюць лексічнай нормы літаратурнай мовы і словы заробак, адробак, адробачная арэнда. На жаль, іх няма ў слоўніку, замест іх — адработачны, адработак, заработак. Але гэтыя словы суадносяцца з лексемамі, якіх няма ў літаратурнай мове, — адработаць, заработаць. У народзе кажуць: «Ён робіць слесарам, мае добры заробак. Пайшоў на заробкі. Быў на адробках». Такія формы слоў шырока ўжываюць нашы пісьменнікі. Пра іх заканамернасць у беларускай літаратурнай мове пісала «Звязда» (14 студзеня 1970 года).

Добра, што ў слоўніку ўнармаваны склонавыя формы назоўнікаў: закону, пралетарыяту, рух па замкнёным крузе. На жаль, сюды трапілі і канструкцыі тыпу праца па найму, праца па сумяшчальніцтву, якія гучаць дысанансам з той моўнай практыкай, якая ўсталёўваецца цяпер у нашым друку.

Не стасуецца з прыродай літаратурнай мовы і форма **карэнні** (класавыя карэнні ідэалізму, ідэалагічныя карэнні), бо ў беларускай мове магчымыя толькі карэнне (форма зборнасці) або корані ці карані (форма множнага ліку). Гэта добра давёў у артыкуле «Крылы, крылле ці крыллі» кандыдат філалагічных навук А. Баханькоў. Такую норму ўжывання гэтых формаў паслядоўна праводзіць і «Арфаграфічны слоўнік» М. Лобана і М. Судніка (Мінск, 1966).

Падсумоўваючы, можна сказаць, што «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі», хоць і не пазбаўлены пэўных недахопаў, увогуле ж будзе карысным даведнікам для работнікаў перыядычнага друку, рэдакцый і выдавецтваў грамадска-палітычнай літаратуры. У пэўнай меры ён будзе спрыяць і далейшай нармалізацыі лексічнай сістэмы літаратурнай мовы.

**Павел СЦЯЦКО.**

«Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі». Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск. 1970.

## Паэтычная паверка

Юрась СВІРКА



### ЗДЫМАЮЦЬ ФІЛЬМ ПРА ВАЙНУ

«Бой» пад вечар адгрымеў.
Адпачыць прылеглі нашы,
Каб мацней раз'ятрыць гнеў
І насыціць патранташы.

Паварочаны карчы,
І дымяцца на пагорку
«Танкі», «кухні», «цягачы» —
Пасля «бою» дыхаць горка.

Паглядзеў я за адхон
На «фашыстаў» і ўздрыгнуўся,
Нехта кінуў ім праклён,
Нехта куксай замахнуўся.

А яны стаяць, стаяць
На абочыне дарогі...

Зноў у памяці гучаць
Плач, і стрэлы, і трывога.

Толькі ўсё ж іх выдае
Роднай мовы лад і вязка.
Хто яе не пазнае,
Дабрату вачэй славянскіх!

Хоць закасаны франчы,
Як у мяснікоў — па локаць, —
Ды не ўдасца ім нічым
Нас сягоння запалохаць.

...Фільм здымаюць.
«Бой» ідзе...
Хай жа помняць пакаленні,
Як лізаў агонь людзей,
Што падсохлае паленне.

Як успыхвалі сады
І глытаў дзяцей калодзеж.
...Дагарэлых вёсак дым
Лезе ў вочы — дзе ні пойдзеш,

Да артыстаў маладых
Не адразу ўдача прыйдзе:
Цяжка ўжыцца ў ролі тых,
Каго людзі ненавідзяць.

### ВОЗЕРА МУШКАТ

Плыву па возеры Мушкат.
Яно зусім не сінявокае.
Яно такое акурат,
Як назва горада — Глыбокае.

Я толькі што прыйшоў адтуль
(Там пастаяў, нібы паломнік),
Дзе чэргі фашыстоўскіх куль
Траншэі выслалі палоннымі.

А іх па ўсёй маёй зямлі
Яшчэ чакаюць каля веснічак...
Яны дадому не прыйшлі,
Мае і не мае равеснікі.

Імёны цяжка ўсе назваць,
І на граніце іх не высечы...

# ЗАХАПЛЯЮЧАЯ ПАНАРАМА

*ЯКІМ БУДЗЕ «ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ»*

Рыхтуецца вялікае шматтомнае выданне. Яно змесціць асноўныя звесткі пра ўсе помнікі гісторыі і культуры, якія ёсць на тэрыторыі краіны, дасць шырокую панараму багацейшай культуры народаў, з'явіцца афіцыйным дзяржаўным дакументам. У яго ўвойдуць усе помнікі, што стаяць або якім належыць стаяць пад дзяржаўнай аховаю. І называцца выданне будзе так: «Збор помнікаў гісторыі і культуры СССР».

Створаны цэнтры па рабоце над аналагічнымі выданнямі ў кожнай рэспубліцы. Такім цэнтрам у Беларусі з'яўляецца Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

Як жа пачалася работа над «Зборам» у нас, у Беларусі?



Баранавічы. Урочышча Гай. Помнік на магіле трох тысяч чэхаў і славакаў, якія былі расстраляны фашыстамі ў 1942 годзе.

### ХТО І ШТО РОБІЦЬ

«Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» будзе складацца з сямі тамоў — па адным на кожную вобласць і на горад Мінск.

Пачаўшы работу, мы адразу ж сутыкнуліся з вялікімі цяжкасцямі. Недахоп навуковых кадраў (спачатку наш сектар складаўся з шасці чалавек) і амаль поўная адсутнасць неабходных для «Збору» матэрыялаў патрабавалі тэрміновых арганізацыйных мер. Вялікую ўвагу гэтаму ўдзяліў аддзел навукі і навучальных устаноў ЦК КПБ і прэзідыум АН БССР. Цяпер над «Зборам» працуе 25 чалавек. Устаноўлены сувязі з многімі ўстановамі і арганізацыямі ў рэспубліцы. Творчыя адносіны ўсталяваліся з Інстытутам гісторыі АН БССР і Рэспубліканскім таварыствам аховы помнікаў.



Вёска Калдычава. Тут ў 1942—1944 гады загінулі тысячы савецкіх людзей.

Сектар падзелены на некалькі груп. Групу археалогіі і гісторыі ўзначальвае кандыдат гістарычных навук В. Караткевіч, архітэктуры — кандыдат архітэктуры Г. Чарняўская, выяўленчага мастацтва — кандыдат мастацтвазнаўства В. Церашчатава, ёсць група рэдактараў і тэхнічных работнікаў.

Асноўная цяжкасць наша ў тым, што выключная большасць помнікаў у рэспубліцы, асабліва па архітэктуры і выяўленчым мастацтве, не толькі не даследавана, але і наогул не ўлічана.

Работу над стварэннем «Збору» мы пачалі з Брэсцкай вобласці.

Адразу ж паехалі ў экспедыцыі. Дзесяць навуковых экспедыцый па Брэсцкай вобласці выявілі каля 2 000 помнікаў — гістарычных, археалагічных, архітэктурных, выяўленчага мастацтва.

Вывучаліся архіўныя і літаратурныя крыніцы ў Маскве і Мінску, матэрыялы архіваў і бібліятэк Гродна, Вільнюса, Брэста, усіх музеяў вобласці.

І вось складзены слоўнік першага тома. У ім — толькі найбольш значныя помнікі Брэсцкай вобласці: 47—па археалогіі, 159—па гісторыі, 168—па архітэктуры і горадабудаўніцтве, 38 помнікаў выяўленчага мастацтва. Кожнаму з гэтых помнікаў будзе прысвечаны асобны артыкул з ілюстрацыямі.



Звычайны вятрак. Незвычайна рэдкім стаў ён на нашых абшарах. Але колькі паэзіі ў ім, колькі настрою! Вятрак у вёсцы Уласы збудаваны яшчэ ў мінулым стагоддзі.

### ЧАГО ВАРТЫ САБРАНЫ МАТЭРЫЯЛ

Калі гаварыць пра матэрыялы, сабраныя групай гісторыі, то яны ўпершыню больш-менш поўна ствараюць агульную карціну гістарычных помнікаў Брэсцкай вобласці. Помнікі вобласці адлюстроўваюць важнейшыя падзеі, звязаныя з Айчыннай вайной 1812 года, грамадзянскай вайной, рэвалюцыйнай барацьбой працоўных, вызваленчым рухам Заходняй Беларусі. Большасць з іх прысвечана гераічнай барацьбе савецкага народа ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Цікавыя звесткі аб узнікненні, развіцці планіроўкі і забудовы гарадоў вобласці. Цяпер відаць агульная карціна горадабудаўніцтва на Брэстчыне.

Поўнае абследаванне каменнага дойлідства Брэсцкай вобласці дало наглядное ўяўленне аб асаблівасцях развіцця архітэктуры гэтага раёна. З'явілася магчымасць прасачыць развіццё на тэрыторыі Заходняй Беларусі такіх архітэктурных стыляў, як барока і класіцызм, неаготыка і мадэрн. Прыклады палацавай і сядзібнапаркавай архітэктуры папоўніліся значнай колькасцю яшчэ нявывучаных палацавых і сядзібных комплексаў.

Палескае драўлянае дойлідства было вядома навуцы толькі па асобных помніках. Можна назваць навуковыя публікацыі пра храмы ў Давыд-Гарадку, Гошчаве, Бялавічах, Кажан-Гарадку, сядзібе ў Заполлі і яшчэ некалькі. Нашы ж даследаванні паказалі, што Брэсцкае Палессе — гэта сапраўдны запаведнік драўлянага дойлідства, якое па сваёй своеасаблівасці і прыгажосці такое ж значнае, як праслаўленае дойлідства Закарпацця або поўначы Расіі.



Далёкія вякі пазначылі муры касцёла Святой Троіцы ў вёсцы Ішкальдзь. Гэтыя муры стаяць з 1472 года.

Знойдзена шмат цікавых абразоў. Калі іх параўноўваеш з аналагічным мастацтвам суседніх народаў, то і тут бачыш самабытнасць беларусаў. Варта адзначыць, што да гэтага часу ў нас зусім не вывучалі старажытнага выяўленчага мастацтва. Жыла думка, што гэта мастацтва на Беларусі наогул не развівалася. Цяпер мы ведаем, што беларускі старажытны жывапіс не толькі існуе, але і прыкметна адрозніваецца ад рускага, польскага і ўкраінскага.

Выяўленыя помнікі архітэктуры, старажытнага жывапісу, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ставяць на парадак дня пытанне аб існаванні ў Беларусі архітэктурных і іканапісных школ. Колькасць выяўленых помнікаў абвяргае бытаваўшую ў навуковых колах думку аб малой мастацкай спадчыне беларусаў, патрабуе перагляду ролі і месца беларускай нацыі ў сусветнай культуры.

Праведзеная работа па выяўленні і вывучэнні помнікаў з'яўляецца першым, папярэднім этапам. Наперадзе вялікая работа па іх навуковай сістэматызацыі. Некаторыя супрацоўнікі сектара на аснове сабранага матэрыялу будуць пісаць дысертацыі, манаграфічныя даследаванні.

### ЯК БУДУЦЬ ВЫГЛЯДАЦЬ ТАМЫ «ЗБОРУ»

У «Збор» увойдуць нерухомыя культурныя каштоўнасці — помнікі археалогіі (пасяленні, гарадзішчы, курганныя і бескурганныя могілкі, валы, рвы, каменныя «бабы» і г. д.), гісторыі (месцы і збудаванні, звязаныя з найбольш значнымі падзеямі ў жыцці нашага народа, з гісторыяй вызваленчага і рэвалюцыйнага руху, помнікі працоўнай славы, помнікі аб войнах і мемарыяльнага значэння); помнікі архітэктуры і мастацтва (грамадзянскія і культавыя пабудовы, сядзібы, крэпасці, замкі, паркі, помнікі народнага дойлідства, манументальнай скульптуры, іконы, роспісы, фрэскі, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва). У «Збор» павінны ўвайсці ўсе помнікі архітэктуры, створаныя да першай паловы XIX стагоддзя ўключна, астатнія будуць паказаны выбарачна — самыя каштоўныя.

